## БІЛ КЛІНТАН ПАДЗЯКАВАЎ ПРЭЗІДЭНТУ БЕЛАРУСІ ЗА ЯГО СПАЧУВАЛЬНАЕ ПАСЛАННЕ Ў СУВЯЗІ З ТРАГЕДЫЯЙ У АТЛАНЦЕ

**На імя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі паступіў ліст ад Прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Біла Клінтана. Аб гэтым карэспандэнту БЕЛТА паведамілі ў аддзеле друку і інфармацыі беларускага МЗС.**

У лісце, у прыватнасці, гаворыцца: «Паважаны пан Прэзідэнт, дзякую Вам за Ваша пасланне з выказваннем заклапочанасці ў сувязі з жудасным актам тэрору ў Алімпійскім парку ў Атланце, штат Джорджыя. Гэты бязлітасны напад быў накіраваны не толькі супраць бязвінных ахвяр, але таксама ў самае сэрца таго, што сімвалізуе Алімпійскія гульні, — адважнае памкненне да дасканаласці праз мірнае спаборніцтва. Жыхары Атланты прадэманстравалі, што яны не схіляюць свае галовы перад пагрозай тэрору. Вы можаце быць упэўнены, што Злучаныя Штаты поўныя рашучасці знайсці і прыцягнуць да адказнасці асоб, якія ажыццявілі гэты баязлівы і жорсткі акт».

Біл Клінтан падзякаваў Аляксандру Лукашэнку за спачуванне і ад імя сем'яў загінуўшых, усяго амерыканскага народа.

**БЕЛТА.**

## ГАНАРОВЫЯ ЗВАННІ

**Указамі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ганаровыя званні прысвоены:**

галоўнаму інспектару Міністэрства адукацыі і навукі **Шорап** Ганне Васільеўне — ганаровае званне «Заслужаны работнік адукацыі Рэспублікі Беларусь»;

кіраўніку трэста «Захадэлектрасеткабуд» **Кунцэвічу** Станіславу Уладзіміравічу — ганаровае званне «Заслужаны будаўнік Рэспублікі Беларусь»;

мастакам **Аракчэеву** Барысу Уладзіміравічу, **Паражняку** Тарасу Мікалаевічу і **Шутаву** Генадзію Фёдаравічу — ганаровае званне «Заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь»;

генеральнаму дырэктару адкрытага акцыянернага таварыства «Беллеспапера» **Ярковічу** Антону Антонавічу — ганаровае званне «Заслужаны работнік прамысловасці Рэспублікі Беларусь».

**БЕЛТА.**

## *АДНЫМ СКАЗАМ*

- Прадпрыемствамі Мінпрама **за сем месяцаў** выраблена прадукцыі на суму 19,5 трыльёна рублёў, ці 22,5 працэнта ад агульнага аб'ёму прамысловай прадукцыі ў рэспубліцы.
- У першым паўгоддзі мінулага года **развялося** 21.809 сем'яў, за паўгоддзе гэтага **распалася** 21.558 шлюбаў.
- Аб'ём валавога ўнутранага прадукту, выпрабленага ў студзені — ліпені, склаў **85.898 мільярдаў рублёў,** а гэта **100,2 працэнта** да аналагічнага перыяду мінулага года.
- Істотнае зніжэнне аб'ёмаў вытворчасці за сем месяцаў дапушчана на прадпрыемствах прамысловасці **будаўнічых матэрыялаў** — на 6,2 працэнта, **лёгкай** — на 2,3 і **харчовай прамысловасці** — на 2,5 працэнта.
- Кабінетам Міністраў адобрана распрацаваная ў Міністэрстве адукацыі і навукі **Канцэпцыя рэформы** агульнаадукацыйнай сярэдняй школы, якая прадугледжвае ўвядзенне абавязковай **10-гадовай** базавай агульнаадукацыйнай школы і **5-дзённага** вучэбнага тыдня.
- Па выніках конкурсу ў ВНУ самай папулярнай аказалася прафесія **пагранічніка** — 10 чалавек на месца.
- Калі за 10 гадоў да аварыі на ЧАЭС на Беларусі было выяўлена ўсяго 7 выпадкаў **пухліны шчытападобнай залозы,** то сёння — 450 выпадкаў.

*ФУТБОЛ. КУБАК УЕФА*

## ПРАВАЛ...

**Поўным правалам закончылася выступленне абодвух беларускіх клубаў у гэтым еўратурніры, хоць шанцаў на тое, што і «Дынама», і «Дынама-93» пройдуць кваліфікацыйны турнір і прадоўжаць барацьбу ў асноўным, было больш чым дастаткова.**

Чэмпіёны нашай краіны, мінскія дынамаўцы, нагадаем, два тыдні назад на маладзечанскім стадыёне абыгралі турэцкі «Бешыкташ» — 2:1 і, па словах галоўнага трэнера Івана Шчокіна, гатовы былі паўтарыць леташні поспех, аднак... На сваім полі туркі не пакінулі нашым ніякіх надзей. Гульня, па сведчанню відавочцаў, была, у прынцыпе, роўнай. У другім тайме туркам удаліся дзве атакі, якія прывялі да галоў у нашы вароты — 2:0 — і «Дынама» сёлета па-за бортам футбольнай Еўропы.

Давала надзею на поспех і першая гульня «Дынама-93» у Швецыі супраць «Хельсінборга». Нічыя на чужым полі — 1:1 — даволі моцны падмурак. Няма сэнсу пераказваць, як разгортваліся падзеі ў мінулы аўторак усё на тым жа злашчасным маладзечанскім стадыёне (сталічныя балельшчыкі так і не ўбачылі сёлета «вялікага» футбола) — 0:3 — і гэтым усё сказана.

Апошняя надзея беларускіх балельшчыкаў — мазырскі МВКЦ, які сёння ў сталіцы Ісландыі правядзе матч у адказ супраць мясцовага «Рэйк'явіка» ў розыгрышы Кубка ўладальнікаў кубкаў. Першая гульня, нагадаем, склалася не зусім удала для мазыран: нічыя на сваім полі — 2:2. Трэнеры і ігракі МВКЦ абяцалі вярнуцца з Ісландыі толькі з перамогай.

**Анатоль СЛАНЕЎСКІ.**

# ДАВЕР ДА ПРЭЗІДЭНТА — ШАНЦ ДЛЯ ЎСЁЙ РЭСПУБЛІКІ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

людзей — 16,3 працэнта — не давяраюць Прэзідэнту. Даволі высокі рэйтынг арміі, ёй давяраюць 41,2 працэнта рэспандэнтаў і не давяраюць — 25.

Усё больш пашыранай становіцца думка, што без жорсткага кіраўніцтва палепшыць сітуацыю не ўдасца. У значнай часткі жыхароў вобласці ўсё больш праяўляецца схільнасць да ўспрымання больш жорсткага кіравання, якое вядзе да ўстанаўлення парадку, арганізаванасці і дысцыпліны.

**— Хто ж з вядомых людзей рэспублікі ў сувязі з гэтым увасабляе для віцяблян ідэальнае аблічча беларуса?**

— Два гады таму, безумоўна, лідзіраваў ураджэнец краю Петр Машэраў, яго назвалі 60,5 працэнта, бліжэйшым «сапернікам» быў Якуб Колас — 39,8. Згодна з вынікамі апытання-96, лідзіруюць той жа былы партыйны кіраўнік і Аляксандр Лукашэнка — іх назвалі 48,2 і 33,8 працэнта рэспандэнтаў. Меркаванне пра Пятра Машэрава, на мой погляд, грунтуецца на вядомых грамадству яго чалавечых якасцях, але прысутнічае і элемент памяці аб тым, што жыццё ў той час было лепшае, больш стабільнае і перспектыўнае. Магчыма, гэта гаворыць аб тым, што людзі знудзіліся па лідэру, які здольны павесці за сабой.

Але ўсё ж сярод дзеючых палітыкаў Прэзідэнт сёння з'яўляецца безумоўным лідэрам. З 68 працэнтаў грамадзян, якія пажадалі выказаць свае адносіны да Аляксандра Лукашэнкі, 89,2 ставяцца да яго станоўча. Больш таго, 70,4 працэнта выказалі гатоўнасць у выпадку неабходнасці ўдзельнічаць у акцыях падтрымкі Прэзідэнта. Дарэчы, другім найбольш вядомым палітыкам, на думку апытаных, з'яўляецца Зянон Пазняк. Свае адносіны да яго выказалі 36,5 працэнта рэспандэнтаў, але з гэтай колькасці 86,8 ставяцца да яго адмоўна і 13,1 — станоўча.

**— Акцэнты расстаўлены даволі пэўна. Чаму ж тады спрагназіраваны магчымы сацыяльны выбух?**

— Сацыяльна-эканамічныя і іншыя праблемы негатыўна адбіваюцца на духоўна-маральным стане, псіхалагічным і фізічным самаадчуванні. Дзве трэці дарослага насельніцтва вобласці адчуваюць сябе не зусім добра. Іх хвалюе ўласная будучыня і будучыня іх дзяцей, зніжэнне матэрыяльнага дабрабыту, нарастаючая бездухоўнасць грамадства, страта ідэалаў і маральных каштоўнасцей. Прэс праблем, якія прыгнятаюць свядомасць, выклікае песімістычныя настроі і гатоўнасць да дзеянняў, не заўсёды пажаданых для грамадства. Узрастаюць абыякавасць, апатыя, стомленасць, многія адчуваюць сябе адзінокімі і безабароннымі. І ў выніку — злосць і агрэсіўнасць, асабліва гэта адчуваецца сярод мужчын і жыхароў гарадоў.

Вялікую трывогу выклікаюць суіцыдныя настроі. «Усё надакучыла», — так адказвалі на пытанні вельмі многія. «Жыць абрыдла», — як адрэзалі некаторыя, у асноўным людзі ад 30 да 50 гадоў. У той жа час з прапанаваных анкетай паўтара дзесятка чалавечых якасцей, найбольш, на іх думку, уласцівых беларусам, рэспандэнты выдзелілі чатыры: працавітасць, цярплівасць, гасціннасць, дабрыню. Многія лічаць, што беларусы — вялікі народ, неабходна толькі, забяспечыўшы нацыянальную згоду, ісці па шляху абнаўлення, але без культурнай і інфармацыйнай самаізаляцыі. Менавіта гэтыя варыянты выхаду з тупіка, выхаду шляхам захавання самабытнасці і душы народа, дасягнення самапавагі прапаноўвалі ўдзельнікі маніторынгавага даследавання.

**— Трэба яшчэ і добра папрацаваць. Якімі бачаць, Мікалай Іосіфавіч, вашы рэспандэнты шляхі эканамічнага развіцця?**

— Далёка не любой цаной прапануюць жыхары вобласці вырашаць эканамічныя праблемы, хоць і сведчаць сваімі адказамі аб зніжэнні жыццёвага ўзроўню. Калі ў 1994 годзе беднымі лічылі сябе 48,7 працэнта людзей, то цяпер — 58, жабракамі — адпаведна 13,9 і 12,2. Знізіўся працэнт людзей з сярэднім дастаткам — з 31 да 26. Багатых жа, як раней, так і сёння, няшмат — усяго 0,13 і 0,14 працэнта.

Трэба адзначыць, што за два гады адбыліся некаторыя змены ў грамадскай думцы наконт прымальных для рэспублікі тыпаў эканомікі. Менш стала прыхільнікаў планавай эканомікі і эканомікі змешанага тыпу, хоць колькасць прыхільнікаў капіталізацыі грамадства значна не змянілася — 13,8 і 14,5 працэнта. Здарылася іншае: больш стала людзей, якія пра гэта проста не думаюць. У 1994 годзе такіх было 16,6 працэнта, у 1996 — 28,3. Пашыраецца думка, што не варта спрачацца аб тыпах эканомікі, лепш паклапаціцца пра нармальныя ўмовы для жыцця і работы.

Дзве трэці насельніцтва не ўспрымаюць спекуляцыйна-гандлярскі прынцып абагачэння любымі сродкамі. Дзевяць чалавек з дзесяці апытаных выказалі гатоўнасць больш працаваць і больш зарабляць. Амаль 65 працэнтаў жыхароў згодны жыць бядней, але без рызыкі, з гарантаваным дастаткам. Несумненна, маючы адбыцца рэферэндум дапаможа кіраўніцтву рэспублікі вызначыць тыя шляхі развіцця сітуацыі, якія будуць найбольш прымальнымі для большасці насельніцтва.

**Вольга СІДАРОВІЧ,**
**БЕЛТА.**

## Пагадненне дасягнута хутка

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

В. Новікаў заявіў, што зараз ветэраны выкарыстоўваюцца для таго, каб раскалоць ПКБ, але «гэта магчымасць ачысціцца ад тых, хто па ўзросту нешта не зразумеў».

Як аказалася, не задаволены дзейнасцю Прэзідэнта і ў Савеце калгасаў. «На вёсцы надакучыла палітычная вайна. Мы не можам пагадзіцца з запазычанасцямі, з тым, што ў рэспубліцы няма структуры, якая б пастаўляла запчасткі для камбайнаў, і таму яны прастойваюць, з афіцыйнай прапагандай таго, што перад жнівом калгасам аказана «належная дапамога». Тая дапамога склала 6—12 мільёнаў на калгас,» — сказаў старшыня Савета калгасаў Антон Юнцэвіч. Гэтыя праблемы і прывялі старшыню ў палітыку. «Слоўная эквілібрыстыка надакучыла вёсцы», — заявіў А. Юнцэвіч.

Сямён Шарэцкі з жалем канстатаваў, што парламент дасюль не атрымаў тэксту мяркуемых змен у Канстытуцыю і таму перад парламентам паўстала праблема: як прызначаць дату рэферэндуму па пытаннях, якія ніхто не бачыў?

Праз тыдзень удзельнікі «круглага стала» збяруцца для падпісання Заявы, камісія па стварэнню якой была выбрана. Удзельнікі «стала», акрамя С. Лінга, падпісалі пагадненне, у якім бяруць на сябе наступныя абавязкі:

— усю сваю дзейнасць ажыццяўляць выключна ў рамках Канстытуцыі;

— гарантаваць захаванне правоў і свабод у Рэспубліцы Беларусь;

— прывесці ў адпаведнасць з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь усе законы, падзаконныя акты і рашэнні, прызнаныя Канстытуцыйным судом не адпаведнымі Канстытуцыі і існуючым законам;

— няўхільна выконваць Закон аб СМІ, гарантаваць іх свабоду, стварыць Назіральны савет пры Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі;

— у рамках заканадаўства забяспечыць галоснасць у дзейнасці Прэзідэнта, Вярхоўнага Савета, Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь;

— дамагчыся правядзення выбараў у Вярхоўны і мясцовыя Саветы ў тэрмін, прызначаны Цэнтральнай камісіяй па выбарах і правядзенню рэферэндумаў.

Удзельнікі аб'явілі свой стол «пастаянна дзеючым».

Падпісалі: ад Аграрнай партыі — Мечыслаў Гіруць, ад Беларускай сялянскай партыі — Яўген Лугін, ад Жаночай партыі «Надзея» Святлана Бястужава, ад Партыі працы Аляксандр Бухвостаў, ад БСДГ — Мікола Статкевіч, ад БНФ — Лявон Баршчэўскі, ад Савета калгасаў — Антон Юнцэвіч, ад Вярхоўнага Савета — Сямён Шарэцкі, ад АГП — Станіслаў Багданкевіч, ад Партыі ўсебеларускага адзінства і згоды — Дзмітрый Булахаў, ад ПКБ — Васіль Новікаў, ад Партыі народнай згоды — Георгій Таразевіч, ад Экалагічнай партыі — Міхаіл Фрыдлянд, ад Беларускага кангрэса Дэмакратычных прафсаюзаў — Сяргей Іўчын.

Лідэр Беларускага патрыятычнага руху Анатоль Баранкевіч падпісаў дакумент, за выключэннем цэлага шэрага пунктаў.

**Таццяна КАЛІНОЎСКАЯ.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ ПРЭС-СЛУЖБЫ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Сенсацыя для любога журналіста, бясспрэчна,— прафесіянальная ўдача. Аднак занадта даверлівага рэпарцёра на гэтым шляху падсцерагае небяспека, здольная паставіць у няёмкае становішча не толькі яго, але і газету.

Можна толькі паспачуваць маскоўскім «Известиям», якія з лёгкасцю наіўнага печкура заглынулі «інфармацыю» з Мінска аб нейкім сенсацыйным дакуменце. Нават не паспрабаваўшы праверыць яе сапраўднасць, «Известия» з зайздроснай аператыўнасцю паведамілі, што ў Мінску «распрацавана інструкцыя» па спакушэнню і подкупу буйнейшых замежных тэлевізійных і газетных «зорак», якім за «ідэалагічнае забеспячэнне» маючага адбыцца ў Беларусі рэферэндуму будуць прапанаваны фантастычныя сумы.

Апублікаваны «Известиями» і некаторымі беларускімі выданнямі «дакумент» стракаціць прозвішчамі, назвамі газет і часопісаў, грашовымі сумамі. Няма ў ім толькі аднаго — доказу сапраўднасці «дакумента», без чаго ён з'яўляецца самай звычайнай фальшыўкай.

Нават рэпарцёр-пачатковец ведае, што сучасная тэхніка дае магчымасць стварыць любы дакумент з дастатковай ступенню праўдападобнасці. Таму адказная газета, якая клапоціцца пра сваё імя, абавязкова публікуе фотакопію афіцыйнага дакумента, што трапіў да яе. З сапраўднымі подпісамі, пячаткамі і іншымі неабходнымі рэквізітамі.

Ні ў «Известиях», ні ў беларускіх выданнях, якія таксама даверыліся безыменным інфарматарам, такіх фотакопій няма па вельмі простай прычыне — ніякага афіцыйнага дакумента на тэму «ідэалагічнага забеспячэння маючага адбыцца рэферэндуму» проста няма. «Сенсацыя» высасана з пальца, а грамадская думка чарговы раз уведзена ў зман малакваліфікаванымі газетчыкамі.

Прэс-служба Прэзідэнта краіны выказвае шчырае спачуванне маскоўскім і беларускім журналістам, якія сталі ахвярамі фальсіфікатараў. Каб пазбегнуць такіх казусаў, прэс-служба яшчэ раз заяўляе, што яна адкрыта для супрацоўніцтва з усімі беларускімі і замежнымі СМІ незалежна ад іх палітычнай арыентацыі. Адзіная ўмова для сумеснай работы — прытрымлівацца агульнапрызнаных патрабаванняў журналісцкай этыкі.

**Прэс-служба Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

*ПОГЛЯД*

## Разгляд справы 7 членаў УНСО перанесены ў Мінскі гарадскі суд

***Пракуратура горада Мінска і Цэнтральны раённы суд памыліліся. Пракурор з Цэнтральнага раёна Ядвіга Бабкіна іх папраўіла***

21 жніўня ў памяшканні Мінскага гарадскога суда саставам Цэнтральнага райсуда ў 10.30 пачаўся разгляд крымінальнай справы сямі грамадзян Украіны: Сяргея Патапава (1950 г. нар.), Уладзіміра Салаўя (1943), Андрэя Шапціцкага (1967), Андрэя Дрыгайлы (1965), Андрэя Міранюка (1965), Андрэя Бурлакі (1975), Вячаслава Гоча (1973), якія абвінавачваюцца па артыкулах 186-3 і 181-1 Крымінальнага кодэкса Беларусі па факту падзей 26 красавіка ў Мінску і ўтрымліваюцца з гэтага дня ў следчым ізалятары № 1 Мінгарвыканкома.

Следства праводзіла следчая брыгада Мінскай гарадской пракуратуры, усе абвінавачваемыя атрымалі копіі абвінаваўчага заключэння 12 жніўня гэтага года. Суд адкрыў суддзя Цэнтральнага раёна Павел Каршуновіч. У якасці прадстаўніка дзяржаўнага абвінавачвання выступіла пракурор з Цэнтральнага раёна Ядвіга Бабкіна. Абарону прадстаўлялі чатыры адвакаты: Уладзімір Калеснікаў, Іван Кулагін, Арсеній Скаруліс, Надзея Дударава. Двое з абвінавачваемых адмовіліся даваць паказанні на рускай мове, таму да працы прыступіла перакладчыца. Абвінавачваемы У. Салавей выказаў просьбу ўголас памаліцца, аднак суддзя рэкамендаваў гэта зрабіць пра сябе, бо малітвы і гімны не прадугледжаны працэдурай судовага разбору. Судовы разбор быў надзвычай кароткім і для людзей, незнаёмых з Крымінальна-працэсуальным кодэксам, нават незразумелым. Суддзя высветліў асобы абвінавачваемых, растлумачыў ім іх правы і спытаў, ці ёсць у каго хадайніцтвы. І такое хадайніцтва з'явілася ў прадстаўніка пракуратуры Цэнтральнага раёна Ядвігі Бабкінай, якая запатрабавала перанесці гэты разбор у вышэйстаячы Мінскі гарадскі суд, бо толькі ён, згодна з артыкулам 38 КПК Беларусі, можа разглядаць падобныя справы. Як высветлілася, гэта сапраўды законнае патрабаванне, незразумела толькі, чаму яно ўзнікла ўжо ў ходзе суда, чаму Мінская гарадская пракуратура не ведала аб існаванні такіх палажэнняў, калі накіроўвала справу ў раённы суд, ці ў Цэнтральным райсудзе, калі папярэдне праводзілі распарадча-судовае пасяджэнне... Відаць, памыліліся. Іх памылку выправіла пракурор Я. Бабкіна і пасля двухгадзіннай нарады суддзя П. Каршуновіч, які пагадзіўся з яе хадайніцтвам, пастанавіў накіраваць справу ў Мінскі гарадскі суд.

— Я лічу, што гэта даволі добра спланаванае дзеянне пракуратуры і, магчыма, суддзі. Не ведаць аб такіх палажэннях кодэкса не маглі ні ў пракуратуры, ні ў судзе, — зазначыла адвакат падсудных Надзея Дударава. — Пракурор не меў права накіроўваць гэтую справу ў той суд, якому яна не падсудная. У мяне напрошваецца толькі адна выснова — гэта было спланаванае дзеянне, каб адцягнуць суд. Бацькам абвінавачваемых будзе вельмі цяжка яшчэ раз прыехаць на пасяджэнне, яны ў цяжкім маральным і матэрыяльным становішчы. Акрамя таго, у гарадскім судзе вялікая чарга на разгляд спраў.

Надзея Дударава бачыць сваёй задачай арганізаваць сустрэчы бацькоў, што прыехалі на суд, з сынамі, хадайнічаць аб змяненні ім меры стрымання на падпіску аб нявыездзе ці пад залог і дабівацца паскарэння разгляду справы ў гарадскім судзе.

Маці аднаго з абвінавачваемых Вера Бурлака, якая прыехала на суд з цягніка, неаднойчы ўсхліпвала ў калідорах суда: «Я на гэтую гадзіну не ведаю, у чым віна майго сына», — гаварыла яна. Маці Андрэя Шапціцкага Людміла Пятроўна, што прыехала з Цярнопальскай вобласці, таксама мала ведала, у чым абвінавачваюць яе сына. У Мінск яна прыехала з вялікімі цяжкасцямі, грошы на паездку ёй збіралі сваякі, суседзі, калегі па рабоце ў школе. Зарплату яна не атрымлівала з лютага.

Прысутнічаў на пасяджэнні і лідэр праварадыкальнай арганізацыі УНА—УНСО, да якой належаць абвінавачваемыя, дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны Алег Вітовіч. Ён заявіў журналістам, што разглядае гэты працэс як палітычны. Алег Вітовіч паведаміў, што днямі прэзідэнт Рэспублікі Ічкерыя Зелімхан Яндарбіеў нават падпісаў указ аб магчымым вызваленні 14 пагранічнікаў у абмен на арыштаваных у Мінску ўкраінцаў. Па словах Вітовіча, гэтую ідэю падтрымліваюць у расійскім пасольстве ў Кіеве, у камандаванні расійскіх пагранвойскаў, вядомы палітык Уладзімір Шумейка... Акрамя таго, Алег Вітовіч пацвердзіў карэспандэнту «Звязды», што ў Мінску пасля красавіцкіх падзей была сфарміравана ячэйка УНА—УНСО, у якой знаходзіцца да 100 мясцовых беларусаў і ўкраінцаў.

Такім чынам, суд над 7 украінцамі пераносіцца на няпэўны тэрмін, мінімум на месяц.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

*ПОГЛЯД*

# КАМУНІСТЫ НАПЯРЭДАДНІ ЧАРГОВАГА РАСКОЛУ?

**Сёння Камуністычная партыя беларуская ў другі раз пасля 1991 года апынулася перад рэальнай пагрозай сур'ёзнага расколу. Фатальная паласа памылак, няўдач і паражэнняў, якая суправаджала прыхільнікаў камуністычнай ідэі ўсё апошняе дзесяцігоддзе, цяпер, як ніколі раней, здольна перакрэсліць апошнія надзеі ПКБ на рэальную ўладу і на больш-менш пэўныя палітычныя перспектывы ў блізкай будучыні.**

Драматызм сітуацыі, у якой апынуліся беларускія камуністы, у многім абумоўлены тым, што, пачынаючы з 1994 года, на іх палітычным «полі» «іграе» Аляксандр Лукашэнка. Іграе і выйграе.

Цесны саюз з Расіяй, згортванне «несумленнай» прыватызацыі, захаванне калгасна-саўгаснай сістэмы, асуджэнне руху НАТО на Усход, спыненне «беларусізацыі», асуджэнне гістарычнай нацыянальнай сімволікі — усё гэта складала падмурак кампартыйнай праграмы і адначасова было арыенцірамі, пазначанымі ў перадвыбарнай праграме кандыдата ў прэзідэнты Аляксандра Лукашэнкі.

Тады, тры гады назад, лідэры ПКБ не здолелі ці не захацелі ўсвядоміць, наколькі больш таленавіта агучвае іх лозунгі малады палітык са Шклова. Рэальнай альтэрнатывы яму ў асяроддзі кампартыі проста не існавала. ПКБ па прыкладу сваёй папярэдніцы КПБ—КПСС не імкнулася выхоўваць і ўзрошчваць палітыкаў-трыбунаў, палымяных прамоўцаў, лідэраў з артыстычнымі здольнасцямі.

Сакрушальнае паражэнне камуністычнага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах 1994 года было паражэннем ПКБ і асабіста таварыша Новікава, але зусім не паражэннем камуністычнай ідэі. Амаль увесь шматлікі разнамасны электарат КПСС дружна прагаласаваў за Аляксандра Лукашэнку.

Тое, што вярхушка кампартыі не здолела своечасова разгледзець будучага Прэзідэнта, пераступіць праз уласныя амбіцыі і зрабіць на яго стаўку, прыцягнуўшы ва ўласныя шэрагі, — пазней мела для камуністаў ракавыя наступствы.

Ні « радыкальны» і бездапаможны Беларускі народны фронт, ні «памяркоўныя» лібералы з Аб'яднанай грамадзянскай партыі не здолелі б так кардынальна і напорыста процістаяць камуністам, як ідэйна блізкі да іх Аляксандр Лукашэнка.

ПКБ мела ўсе шанцы на рашаючую перамогу на парламенцкіх выбарах 1995 года. Гэтай перамогі камуністы не дабіліся не таму, што ім процістаяў БНФ ці іншыя дэмакраты (сур'ёзнай канкурэнцыі з іх боку ў большасці акруг не было). Проста моцны, дзеяздольны і «аднаколерны» парламент быў непатрэбны Прэзідэнту. У выніку доўгі час фарміраванне парламента ўвогуле заставалася пад пытаннем. А потым, хоць з вялікімі цяжкасцямі і ўдалося правесці плённыя паўторныя выбары, вырашальнай большасці камуністы не здабылі.

Сёння ПКБ перажывае чарговы акт драмы. На нашых вачах адбываецца крушэнне «станавога хрыбта» Камуністычнай партыі — засвоенага з камсамольскіх часоў прынцыпу «дэмакратычнага цэнтралізму», паводле якога выстройвалася жорсткая і дысцыплінаваная піраміда, увянчаная Цэнтральным Камітэтам. Сёння многія пярвічныя партарганізацыі адхрышчваюцца ад рашэння ЦК і подпісу сакратара ЦК ПКБ Сяргея Калякіна пад заявай «сямі» наконт правядзення «круглага стала». Гэта кампанія «адмежавання» актыўна падтрымліваецца і заахвочваецца органамі выканаўчай улады на ўсіх узроўнях: дастаткова пагартаць рэспубліканскія, абласныя, раённыя газеты, якія запоўнены падобнымі калектыўнымі пісьмамі і заявамі.

Камуністы церпяць чарговае і, магчыма, апошняе паражэнне. З-пад гэтых абломкаў яны ўжо наўрад ці калі-небудзь выберуцца. Цяперашнія лідэры ПКБ, якія ўзяліся адстойваць прынцыпы прававой дзяржавы, зрабілі чарговую і, падобна, рашаючую памылку: для большасці радавых членаў КПБ—КПСС гэтыя прынцыпы былі і застаюцца незразумелымі, чужымі і непатрэбнымі. Што ім дыктатура закона, калі яны ўсё жыццё спавядалі ідэі дыктатуры пралетарыяту?

Да ўсяго гэтага дабаўляецца і неспрыяльная знешняя сітуацыя. Камуністычны рэнесанс, які здаваўся такім блізкім і магчымым у 1993—94 гадах, сёння, пасля паражэння Генадзя Зюганава на прэзідэнцкіх выбарах у Расіі, выглядае чымсьці неверагодным.

Здань камунізму пакідае межы былога СССР.

А ўвогуле, будучыня тых камуністаў, якія здольны адэкватна ўспрымаць і ацэньваць цяперашнюю сітуацыю, выглядае не так ужо і змрочна. Пасля магчымага хуткага расколу і крушэння яны натуральным чынам пачнуць дрэйфаваць у бок сацыял-дэмакратыі. Гэта — перспектыўны і разумны шлях, па якому пайшлі амаль усе посткамуністычныя партыі Усходняй Еўропы.

Што датычыць камуністаў іншага гатунку — «нязломных ленінцаў» і «паслядоўных барацьбітоў», то яны застануцца там, дзе і павінны быць, — на крайнім левым флангу з адпаведнай сацыяльнай базай. Яны неабходны хаця б для таго, каб служыць пунктам адліку на палітычнай шкале і быць узорам радыкалізму.

**Валянцін ЖДАНКО.**

*ЗДАРОЎЕ*

## ЦІ АБЛЮБУЕ БЕЛАРУСЬ ХАЛЕРА?

**Сродкі масавай інфармацыі працягваюць абрушваць на галовы сваіх суайчыннікаў паведамленні аб успышках інфекцыйных захворванняў у розных кутках зямнога шара: бацыла 0-157 — у Японіі, халера — у Манголіі, чума і халера — у Кітаі. І колькасць пацярпеўшых ад іх (у Японіі, напрыклад, захварэла ўжо больш за 9 тысяч чалавек і зарэгістравана 9 лятальных зыходаў), зразумела, не можа не выклікаць боязі.**

Аднак, як запэўнілі спецыялісты Рэспубліканскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, (РЦГЭ) небяспечная кішэчная інфекцыя, якая лютуе ў Японіі, беларусам прычыніць шкоды не павінна. Прычына — адсутнасць цесных кантактаў з гэтай краінай (у тым ліку адсутнасць прамых авіярэйсаў у Японію), а таксама кароткі інкубацыйны перыяд захворвання (2-3, максімум 6 дзён), які дазваляе хутка выявіць наяўнасць інфекцыі. Да гэтага часу, нягледзячы на тое, што бацыла 0-157 добра вядома медыкам, успышак гэтага захворвання ні ў нас, ні на тэрыторыі суседніх дзяржаў (Расія, Украіна) не рэгістравалася. Справа ў тым, што прысутнічае гэтая бацыла практычна ўсюды, але пагрозу ўяўляе, размнажаючыся толькі пры пэўных умовах. Большую небяспеку ўяўляе сабой халера. Але верагоднасць завозу яе з тэрыторыі Манголіі малая па прычыне даволі абмежаваных з ёю кантактаў. Усе студэнты, якія прыязджаюць у Беларусь з гэтай краіны, праходзяць медабследаванне, а беларускія грамадзяне, якія працуюць у Манголіі па кантрактах, праходзяць інструктаж, які дазваляе знізіць рызыку захворвання на халеру.

А вось прамыя чартэрныя рэйсы ў Кітай — на самай справе падстава для хвалявання. Па словах загадчыка аддзела эпіднагляду за каранціннымі і асабліва небяспечнымі інфекцыямі РЦГЭ Юрыя Грачова летась на Беларусі былі зарэгістраваны 3 выпадкі завезенай халеры. Але трэба заўважыць, што дастаткова максімум пяці сутак, каб выявіць наяўнасць гэтай хваробы. А таму завезеная інфекцыя выяўляецца адразу па прыбыцці і распаўсюдзіцца не паспявае. Але ўсё ж такі ў медыкаў аб'яўлена гатоўнасць № 1. Дай Бог, каб трывога аказалася беспадстаўнай!

## СТАЛІЧНЫЯ САНЭПІДСЛУЖБЫ «НЕ ДРЭМЛЮЦЬ»...

**Работнікам санэпідслужбаў сумаваць не даводзіцца ніколі, а лета, як вядома, толькі дадае клопату. 873 пратаколы аб парушэнні санітарных правілаў і 645 пастаноў аб штрафных санкцыях на агульную суму 25 мільёнаў рублёў — такі вынік аператыўнай дзейнасці санітарных службаў сталіцы за ліпень гэтага года.**

Акрамя таго, у ліпені была прыпынена эксплуатацыя 91 аб'екта,у тым ліку 45 харчовых, 10 дзіцячых і падлеткавых, 11 камерцыйных і 23 аб'ектаў камерцыйнага гандлю. У ліпені было забракавана 4585 кг прадуктаў харчавання.За гэты перыяд у полі зроку супрацоўнікаў санэпідслужбаў аказаліся 434 аб'екты камерцыйнага гандлю. У іх было выяўлена 207 фактаў рэалізацыі тавараў без сертыфікатаў, у тым ліку ў 168 выпадках без сертыфікатаў якасці рэалізоўваліся харчовыя прадукты, у 28 — дзіцячыя тавары і прадметы хатняга ўжытку.

Па прапановах мінскіх раённых цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі на 33 аб'ектах камерцыйнага гандлю работа была ў ліпені прыпынена, а яшчэ двум з іх «пашанцавала» яшчэ менш — яны наогул былі пазбаўлены права гандлю.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*УРАДЖАЙ-96*

## 68 ЦЭНТНЕРАЎ ЗБАЖЫНЫ З ГЕКТАРА

Вялізнае, як акінуць вокам, поле цягнулася ўздоўж асфальтавай стужкі дарогі. Не стрымаліся, зайшлі ў самую гушчыню пасеваў. Непаседа ветрык гулліва пранёсся над галавой. Глуха зашапацелі буйныя, з медным адлівам каласы. Здавалася, яшчэ адзін такі парыў — і пад магутным напорам паветра сагнуцца, зломяцца папалам гнуткія і такія кволыя на выгляд сцяблінкі пшаніцы. Але ветрык паляцеў далей, а пругкія стрэлы зноў выпраміліся. Колькі палеткаў з пакручастай, палеглай збажыной давялося пабачыць сёлета. А тут стаіць наперакор непагадзі, дажджам і вятрам залацістая пшаніца. Ды яшчэ якая!

— Недзе пад 70 цэнтнераў з гектара абяцае даць кожны гектар азімай пшанічкі, — з гордасцю заявіў старшыня калгаса імя Суворава Пастаўскага раёна Алег Валадзько. — Менавіта на такі рубеж і разлічана гэта тэхналогія. Дарэчы, у Германіі ўраджаі ўжо збіраюць і пад сотню цэнтнераў. А чым нашы палеткі горшыя? Рукі ды розум трэба прыкласці да зямелькі. І яна не так яшчэ аддзячыць.

Ужо не першы год у калгасе імя Суворава Пастаўскага раёна ўкараняецца нямецкая тэхналогія апрацоўкі палеткаў, якую прапанаваў бізнесмен з Германіі Пітэр Штоц. (Дарэчы, «Звязда» неаднойчы пісала пра гэта.) Усё — ад падбору збожжавых, апрацоўкі палеткаў, унясення ўгнаенняў, сяўбы, догляду за пасевамі і да ўборкі ўраджаю — праводзіцца поўнасцю па нямецкай тэхналогіі і на іхняй тэхніцы. У выніку ў некалькі разоў узрастае прадукцыйнасць працы, эканоміцца паліва, да таго ж (і гэта галоўнае) намнога павялічваецца ўрадлівасць палеткаў. Вырошчваючы па гэтай тэхналогіі кукурузу, тут збіраюць па 450—500 цэнтнераў зялёнай масы з гектара. І ўсё ж самае галоўнае — пшаніца! За чвэрць стагоддзя работы ў «Звяздзе» давялося пабываць у сотнях гаспадарак рэспублікі. Але нідзе не бачыў такой густой сцяны збажыны, як на тутэйшым полі. Тут жа ў гутарцы з намі Алег Адольфавіч зазначыў, што па сваёй якасці пшаніца адпавядае самым высокім патрабаванням.

Пра незвычайнае пшанічнае поле і пра нямецкую тэхналогію вырошчвання збажыны і кукурузы даведаўся міністр знешнеэканамічных сувязей Рэспублікі Беларусь Міхаіл Марыніч. Ехаў сюды, па яго словах, з далёкім прыцэлам: калі спраўдзяцца надзеі, то прыкладзе ўсе намаганні, каб гэтая тэхналогія атрымала шырокі доступ на палеткі рэспублікі. І не толькі на Віцебшчыне. Дарэчы, тут для земляробства — не самыя спрыяльныя ўмовы: то праліўныя дажджы, то замаразкі ў чэрвені, як сёлета. Ды і землі — не з лепшых. Узяць той жа калгас імя Суворава Пастаўскага раёна. Сярэдні бал ворыва недзе каля 30. А на слуцкіх, нясвіжскіх землях — усе 60. Ды і тэмпературны рэжым там намнога больш прыдатны. Вось туды б на палеткі гэтую нямецкую тэхналогію! пра гэта марыць, на гэта спадзяецца і Міхаіл Афанасьевіч.

Днямі давялося бачыць па тэлебачанні выступленне Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі, які наведаў Аршанскі раён. З якой гордасцю гаварыў ён і пра тое, што на Аршаншчыне намалочваюць па 28 цэнтнераў збожжа з гектара, і пра тое, што сёння ў Расіі, на Украіне, у Польшчы, Бразіліі адчуваецца востры недахват збожжа, а ў нас нядрэнны ўраджай. Ва ўсякім разе, будзем з хлебам. Падумалася: калі б гэтую тэхналогію вырошчвання збажыны, што ўбачылі мы на палетках у Алега Валадзько, перанесці на іншыя землі рэспублікі, то тады б атрымалі не 6 мільёнаў тон, а ўсе 10.

Такія вось думкі мроіліся ў галаве, калі па самыя грудзі нырнуў у шырокі разліў залацістай пшаніцы. Як хораша, што ў нас яшчэ ёсць такая зямля і такія людзі, якія аддана працуюць на ёй!

**Уладзімір ГОЙТАН.**



**На здымку:** старшыня калгаса імя Суворава Алег ВАЛАДЗЬКО і міністр знешнеэканамічных сувязей Міхаіл МАРЫНІЧ на краі пшанічнага поля.

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

Днямі пазванілі ў калгас імя Суворава. Старшыня паведаміў, што той 50-гектарны масіў азімай пшаніцы даў у сярэднім па 68 цэнтнераў з гектара — амаль утрая больш, чым на іншых участках. Вось так бы ўсюды!

## ФІНАНСАВЫЯ КАМПАНІІ ЛІЧАЦЬ ПА ВОСЕНІ

**У хуткім часе будаўніцтва «фінансавых пірамід» цалкам прыпыніцца на Беларусі. Гэтаму паспрыяе ўвядзенне ліцэнзавання на дзейнасць нябанкаўскіх фінансавых арганізацый, якія павінны да 15 верасня 1996 года зарэгістравацца і атрымаць адпаведныя дакументы ў Нацбанку. Апошні, дарэчы, зрабіў усё, каб у будучым абараніць укладчыкаў магчымых нядобрасумленных ФК.**

Па-першае, зараз рэгіструюцца толькі тыя кампаніі, якія маюць статутны капітал не менш за 100 тыс. ЭКЮ, а да 1 студзеня 1998 года гэтая сума павінна павялічыцца як мінімум у пяць разоў.

Вядома ж, удалы стартавы пачатак сённяшніх фінансавых кампаній зусім не азначае, што праз паўтара года яны таксама будуць «на плаву».

Па-другое, нябанкаўскія арганізацыі абавязаны захоўваць у Нацбанку свой абавязковы рэзерв, памер якога залежыць ад агульнай сумы прыцягнутых грашовых сродкаў (без уліку банкаўскіх крэдытаў). У выпадку крытычнай сітуацыі ФК будуць разлічвацца са сваімі кліентамі ўласнымі сродкамі.

Менавіта таму ўстанаўліваюцца абмежаванні: агульная сума прыцягнутых грашовых сродкаў фізічных асоб не павінна перавышаць памер агульнага капіталу фінансавай кампаніі.

Па-трэцяе, нават зарэгістраваным сёння ФК пакуль не давядзецца спадзявацца на грошы ўкладчыкаў.

Толькі пасля трох гадоў устойлівай работы фінансавая кампанія атрымае права прыцягваць сродкі фізічных асоб.

**Сяргей КУРКАЧ.**

# ЖЫЦЦЁ

*КРЫК ДУШЫ*

## ...І ЗАДЫХНУЦЦА АД АДЧАЮ

Майго бацьку-камуніста ў пачатку вайны расстралялі паліцаі — тыя, каго ён раскулачваў. Самі ведаеце, які час тады быў, бацька мог іх з дапамогай НКУС адправіць далёка. Але на гэта не пайшоў. А яны яго забілі.

Мая маці да 65 гадоў працавала ў калгасе, які яны з бацькам арганізоўвалі і куды ўнеслі моцную гаспадарку.

Наша мнагадзетная сям'я перажыла жудасці вайны. Дзве старэйшыя сястры былі ў Германіі, а мы — у Польшчы. Асабліва цяжкая доля выпала маці: бацьку катавалі і расстрэльвалі на яе вачах. Яго цела і целы яго таварышаў маці ноччу выкрала і пахавала сама. Падчас вайны загінулі двое яе сыноў, маіх братоў. Ад перажытага мама стала псіхічна хворай.

Сям'я наша вельмі бедавала і пасля вайны. Напалову жабракі, але да капеечкі плацілі ўсе падаткі. Усе мы добра ведаем, што такое калгасная праца «за палачкі-працадні».

Калі сем'і, падобныя на нашу, сталі прыраўноўвацца да сем'яў загінуўшых, мы такой ільготы не атрымалі. Мы тады жылі ў Мінску. З аддзела сацзабеспячэння адказвалі, што «бацька нікога не забіў» і... ніякіх ільгот. А каго ён павінен быў забіваць? Гітлера, ці што? Мама вельмі ад гэтага пакутавала.

Я, як інвалід з дзяцінства, атрымлівала пенсію з-за страты карміцеля. Праўда, калі дасягнула паўналецця, пенсію плаціць перасталі, а потым зноў назначылі. Да ўтрыманства я не імкнулася. Я працавала, гадавала дзяцей, у асабістым жыцці адмаўляла сабе ў многім. Пакуль медыкі не зрабілі мяне непрацаздольнай.

У 1985 годзе, ва ўзросце 45 гадоў, мяне няўдала прааперыравалі з нагоды пагаршэння слыху. З аперацыяй мне схлусілі, а потым хлусілі з лячэннем. Ніхто, канешне, не захацеў афіцыйна прызнаць, што лячэнне было няўдалым — слых я страціла амаль поўнасцю.

Мне прыйшлося звальняцца па ўласнаму жаданню: ніхто ж не стане трымаць на працы глухога чалавека. Потым працавала на цяжкай фізічнай рабоце з маленькім акладам.

Спачатку медыкі спіхвалі мяне адзін да аднаго, потым перадалі такую магчымасць уладам. Спатрэбілася ўмяшанне працоўнага калектыву, каб мне змянілі групу інваліднасці. Самае ганебнае, самае сорамнае ў маім жыцці — гэта даказваць медыкам сваю непрацаздольнасць. Калі не можаш працаваць, але ні інваліднасці, ні бальнічнага.

Пенсія была маленькая, а калі ўвялі каэфіцыенты (у мяне — 0,7) — зусім жабрацкая. Іншы раз пакідалі і без яе, бо не магла своечасова вытрымліваць штогадовы медыцынскі агляд, пакуль у 1993 годзе не далі пажыццёвую групу інваліднасці.

А потым новая жудасць — аддзелу сацзабеспячэння не спадабаўся запіс у працоўнай кніжцы, якую мне выдалі ў 1964 годзе, і з мяне знялі 7 гадаў працоўнага калгаснага стажу. Прыйшлося аднаўляць, хоць такое паняцце як «мінімум працадзён» з'явілася ў законе ў 1965-м, а я з'ехала з калгаса ў 1964 годзе.

Тое, што было запісана ў маіх дакументах, нікога не цікавіла. Дарэмнымі былі скаргі аб пераглядзе прычыны інваліднасці. На чаргу на атрыманне кватэры не ставілі — медыкі прычын не бачылі. Пракуратура правярала і не знаходзіла парушэнняў. Суд не прымаў маіх заяў, бо яны былі складзены не па форме. Адвакаты адмаўляліся іх складаць, кажучы, што адказныя людзі павінны несці адказнасць.

Неяк па падказцы склала іскавую заяву. Уключыла мінімальныя страты толькі па зарплаце, 14 мільёнаў — за перажытыя пакуты, за пажыццёвую непрацаздольнасць, за зневажальнае існаванне жабрачкі—папрашайкі ў грамадства, для якога будавала сацыялізм. Праўда, яго дабротамі не карысталася.

У іску мне адмовілі, і цяпер суддзя паказвае мне на дзверы, як калісьці медыкі. Зараз мая справа знаходзіцца ў Вярхоўным судзе і яшчэ не разглядалася.

**З павагай,**
**Любоў Яўціхіеўна Паульская.**

г. Мінск.

**НЕАБХОДНЫ КАМЕНТАРЫЙ.** ***Паколькі пісьмо было адрасавана асабіста мне, павінен нешта патлумачыць і пракаменціраваць.***

***Любоў Яўціхіеўна сапраўды не чуе. Яна была ў мяне, і я сам пераканаўся: размаўлялі мы з цяжкасцю. Толькі праз 5 гадоў пасля няўдалай аперацыі ёй змянілі III пажыццёвую групу інваліднасці на больш высокую.***

***Судовыя інстанцыі са сваім іскам яна прайшла ўсе па парадку: ад раённага суда і да Вярхоўнага. Можна было, праўда, загадзя сказаць, што ў жанчыны нічога не атрымаецца — занадта непрывычная справа. Патрабаваць кампенсацыю за страчанае здароўе — для нас гэта нонсенс. На Захадзе — норма, у нас пакуль не.***

***Уласна, чаму тут здзіўляцца? У судах і пракуратурах сядзяць усё тыя ж людзі, выхаваныя на прынцыпе: дзяржава — усё, людзі — нішто. Так было і так ёсць.***

***Чыноўнік — увогуле катэгорыя нязменная. Што яму далі з самага пачатку, з тым ён і скончыць. Ён будзе прыстасоўвацца і мімікрыраваць, але сваёй сутнасці не зменіць. Тым больш, ён не такі дурны, як некаму здаецца. Слоўнае шалупінне чыноўнік вельмі лёгка аддзяляе і глядзіць у корань праблемы. Ён выдатна бачыць, што падмурак дзяржавы застаўся тым жа, якім быў у 1940, 1985 гадах. Чаго ж торгацца?***

***Трэба б гэты падмурак бурыць і будаваць нешта новае. Ну але ж не чыноўнік гэта будзе ўрэшце рабіць? Гэта называецца сячы сук, на якім сядзіш. А дурных сярод гэтага люду я штосьці не сустракаў.***

***Так што Любові Яўціхіеўне я магу толькі паспачуваць. На жаль, мой вопыт у гэтым сэнсе на 99 працэнтаў адмоўны. Калі адзін суд штосьці вырашае, то ўсе астатнія ў асноўным будуць толькі гэта рашэнне пацвярджаць. З аднаго боку — інерцыя (навошта ламаць галаву і губляць час), з другога — такая катэгорыя, як каставасць — сваіх трэба падтрымаць, каб яны потым нас падтрымалі. Ісціна па той ці іншай справе губляецца сярод Гімалаяў службовай перапіскі, амбіцый і дрымучага мыслення.***

***«Самае крыўднае: у медыцынскай дакументацыі напісана, што эксперты не ўстанавілі прычыннай сувязі паміж маёй непрацаздольнасцю і аперацыямі, наступным лячэннем. Прачытала гэта і ледзь не задыхнулася ад адчаю...» — піша Любоў Яўціхіеўна.***

***На жаль, магу толькі далучыцца...***

**Сяргей ШАЎЦОЎ.**

*СІТУАЦЫЯ*

## ПЫТАЛЬНІК НАД ГАНДЛЁВЫМІ РАДАМІ, альбо Макрапраблема міні-рынку



**Пакуль тэарэтыкі ад палітыкі імкнуцца растлумачыць шырокім масам паняцце «рынычны сацыялізм», людзі-практыкі ідуць да рынку. У прамым сэнсе. Не ў дзяржаўную краму, а на рынак, да прыватнікаў. Там танней, там смачней. Пакуль разважаем пра малы і сярэдні бізнес, ён, гэты бізнес, атабарыўся ў кожным райцэнтры ды мікрараёне. Асеў на малых базарчыках, якія сталі не толькі лепшым доказам гнуткасці рыначнай формы гаспадарання, але і, падобна, першымі ахвярамі дзяржаўнай манаполіі.**

### ХОЧАШ ВЫКАЗАЦЦА — ПІШЫ. ХОЦЬ У СШЫТАК...

Спачатку было слова. Напісанае. І подпісы. Шмат подпісаў. Асобныя заявы, супольныя скаргі. Ксеракопіі дакументаў. І сшытак. Звычайны, школьны. У адным экземпляры. Таму яго папрасілі вярнуць. На вокладцы надпіс: «У адміністрацыю Першамайскага раёна. У адміністрацыю Прэзідэнта РБ. Водгукі і прапановы ў сувязі з закрыццём рынку па вуліцы Русіянава 5/1а (Уручча), (неананімна)».

«Просьба не закрываць рынак». Гэты сказ — ледзь не на кожнай старонцы. Тлумачэнне сітуацыі. Указанне адрасоў. Пагартаўшы першыя старонкі, вырашыў больш не чытаць. Усё зразумела: жыхары мікрараёна «Уручча» клапоцяцца, каб ім пакінулі рынак, які пад пагрозай закрыцця. Натуральна, у сшытку, які прынеслі ў рэдакцыю, будуць водгукі аднабаковыя.

І раптам — што гэта?

«Просім закрыць міні-рынак па вул. Русіянава на месячны тэрмін для прывядзення рынку ў адпаведны санітарны стан і ўстанаўленне плота.

Уч. міліцыянеры Першамайскага РАУС г. Мінска Шакаль Г. А., Бетасаў С. П.»

(Даруйце, калі прозвішчы скажоныя. Напісана рукой, не зусім разборліва.)

Я разгубіўся. Які сэнс несці сшытак з такімі заявамі журналісту, калі маецца процілеглая мэта? Значыцца, подпісы ў ім збіраліся не адмыслова. Плюралізм, народжаны ініцыятывай мас. (Ледзь не новы лозунг...) Далей запісы чытаў з цікавасцю. Ні разу на тым базарчыку не быў, а дзякуючы сшытку адчуў людскі клопат.

І яшчэ зразумеў: людзям няма каму выказаць боль і крыўду. Пасля даведаўся, што ў сшытку, які блукаў па радах базара, меў магчымасць выказацца кожны.

«У мяне трое дзяцей. Я не заўсёды магу нешта купіць і тут, не кажучы пра паездкі на Камароўку».

«Я жыву побач. У мяне дачка І групы інваліднасці. А ездзіць на Камароўку няма грошай і часу. Пенсія на дачку 250 тысяч. А ёсць дзеці яшчэ».

Трывога ў гэтых радках. Трывога за руйнаванне нават мізэрнай стабільнасці.

А вось разважанні пра эканамічную мэтазгоднасць: «Абсурд — рабіць рынкі-гіганты, як Камароўскі.»

Не абышлося і без палітыкі (я шчыра пасмяяўся): «Такую пастанову (аб закрыцці рынку — **М. Т.**) мог абнародаваць толькі дурань. Я дапускаю, што гэта спадары з БНФ».

І нечаканае. Ці то жарт, ці праўда: «Пакіньце, калі ласка, рынак. Тут заўсёды можна нешта ўкрасці. І ўвогуле добра...

Бамжы».

Здаецца, усё зразумела. Сацыяльна абдзеленыя, палітычна актыўныя і нават тыя, што не маюць маёмасці, усе зацікаўлены, каб рынак пакінулі:

### ЗАВЯЗКА І МАГЧЫМАЯ РАЗВЯЗКА

Жыццё рынку па вуліцы Русіянава дало адно з рашэнняў Першамайскага райвыканкома.

Паводле яго, канцэрну «BSV & C°» давалася магчымасць пабудаваць міні-рынак, які пачаў функцыянаваць у 1992 годзе. Летась, у студзені, новым рашэннем на канцэрн ускладзена і арганізацыя тут гандлю. У той пастанове ўказваліся абавязкі гаспадароў рынку, санэпідслужбы і, вядома ж, аддзела ўнутраных спраў.

Але ўжо праз пару месяцаў пабачыў свет іншы дакумент выканаўчай улады: міні-рынак закрыць, дамову на арэнду з канцэрнам скасаваць, дэманціраваць усе гандлёвыя рады, не выдаваць дазволу на гандаль, начальніку аддзела ўнутраных спраў «прыняць меры па прадухіленню стыхійнага гандлю».

Чаму? Што здарылася за чатыры месяцы? Я задаваў сабе гэтыя пытанні, гартаючы дакументы.

Выглядала, што нагодаю для закрыцця рынку стала пастанова санітарнага ўрача раёна, згодна з якой меліся выпадкі рэалізацыі «прадукцыі, якая хутка псуецца», гандаль вядзецца не на латках, а з зямлі. Тэрыторыя кепска прыбіраецца, а адзіны туалет не можа задаволіць «патрэб рынку»...

Мяне ж зацікавіў, дакладней, паставіў у тупік іншы момант. Вось што пісаў у пісьме на імя мэра Мінска Уладзіміра Ярмошына прэзідэнт канцэрна Сяргей Берднік.

«У адпаведнасці з рашэннем райвыканкома быў распрацаваны праект рэканструкцыі і добраўпарадкавання міні-рынку. Пры спробе ўзгаднення дакументацыі камітэт архітэктуры Мінгарвыканкома вызначыў долевы ўдзел канцэрна «BSV & C°» па гэтаму аб'екту ў будаўніцтве магістральных інжынерных сетак і гарадскіх дарог у памеры 307,4 млн. руб. і замацаваў гэта рашэннем Мінгарвыканкома № 362 ад 08.06.1995 г.

Паколькі памер долевага ўдзелу перавышае агульны кошт асноўных фондаў дзеючага міні-рынку, канцэрн не ў стане ўнесці ўказаныя сумы.

У сувязі з невыкананнем умоў па пералічэнню капіталаўкладанняў на долевы ўдзел гарвыканком адмяніў сваё рашэнне на выкананне праектна-пошукавых работ па рэканструкцыі і добраўпарадкаванню міні-рынку.

Адсутнасць зацверджанай дакументацыі стрымлівае рэканструкцыю міні-рынку».

Кошт долевага ўдзелу ў рамонце даражэй самога рынку. Можа, прычына закрыцця ў гэтым? І чаму такая значная сума?

Ва ўсіх паперах праходзіла вызначэнне базарчыка, як часовага. Разам з тым тут вядуцца работы, укладваюцца грошы. Гандляры прадаюць прадукцыю, санэпідстанцыя правярае яе, міліцыя кантралюе парадак, гаспадар (канцэрн) разам з райвыканкомам плануе рэканструкцыю.

Дарэчы, у мяне ёсць пісьмо, у якім распавядаецца, як тое — леташняе — рашэнне выконваецца. Там пішуць: 6 ліпеня, заявіўшы аб закрыцці рынку, міліцыянеры «без афармлення адпаведных дакументаў забіралі рэчы і запіхвалі людзей у машыны следам за рэчамі». Ліст за трыццаццю подпісамі, дарэчы, накіраваны ў Адміністрацыю Прэзідэнта. Гэта было больш года назад. А валтузня працягваецца. Не зайздрошчу гандлярам, якія адчуваюць часовасць сваёй работы. У любы ж момант можа паўтарыцца мінулагодняя сітуацыя.

### БОГ НЕ РОЎНА ДЗЕЛІЦЬ...

... Аказалася, што непадалёку ад рынку жыве мноства маіх калег. Распытваю. Адказ адзін. Базарчык, маўляў, патрэбен адназначна, а вось добраўпарадкаваць не шкодзіла б.

Я паехаў туды.

Увогуле (інфармацыя для не мінчукоў), Уручча ў апошнія гады стала прэстыжным мікрараёнам. У адрозненне ад Шабаноў, дзе я жыву. Гэту розніцу адразу ж заўважыў і на базарчыку.

Значыцца так: дай Бог, каб усюды не горш было. Акуратна, чыста. Гандлююць мясам ці рыбай у асобных павільёнах. (У маіх Шабанах такіх на рынку няма. Як і мяса летам. Нельга гандляваць.)

Наконт прыбіральні. Ёсць. Нават вахцёр прыстаўлены. За карыстанне бярэ грошы. А вось да санэпідстанцыі былі прэтэнзіі.

— Я гандлюю агуркамі і памідорамі, — эмацыянальна дзялілася сваімі клопатамі параўнальна маладая прадстаўніца малога бізнесу. — Для праверкі павінна прадстаўляць і тое і другое па цэламу кілаграму. Страты значныя. Няўжо для аналізаў патрэбна такая колькасць прадуктаў?!.

На рынку іранізавалі: работнікам санстанцыі і палучка непатрэбна. Рынак корміць. Так казалі жанчыны. Не я. Гэта заначаю для тых, хто раптам кінецца крычаць пра паклёп.

Дарэчы, прабачце, зноў наконт прыбіральні. Побач — універсам. Там — вінна-гарэлачны аддзел, які працуе кругласутачна. Мо гэта ягоныя кліенты шкоду наносяць пад'ездам суседніх дамоў?..

Паўтаруся: на рынку не заўважыў нічога заганнага. Я, вядома, не спецыяліст. Але як шабановец і пакупнік сцвярджаю: Бог не роўна дзеліць. У Шабаны б такі рынак! А мо прычына ў гаспадару?..

Поўны ўнутраных неўразуменняў наконт закрыцця базарчыка, я патэлефанаваў кіраўніку адміністрацыі Першамайскага раёна Івану Мацкевічу. А раптам усё змянілася?!. Пачуў катэгарычнае:

— Рынак будзем закрываць і будаваць новы. У іншым месцы.

Усё бачыў, чытаў дакументы, гутарыў з людзьмі. Заставалася яшчэ раз задумацца...

### РАЗВАЖАННІ АД АДВАРОТНАГА

Дапусцім, рынак закрыюць. Каму будзе горш? Пакупнікам, гандлярам, жыхарам мікрараёна. Каму стане лепш? Не ведаю. Хіба што кіраўніцтву універсама — канкурэнцыя знікне.

Дапусцім, рынак будзе функцыянаваць, а паралельна пачнецца будаўніцтва новага. У іншым месцы. Зноў затраты. І хто будзе ў такім выпадку гаспадаром? Напэўна, новая кампанія. А чаму не канцэрн? Яны ж ужо маюць вопыт.

Што будзе рабіць Сяргей Берднік? Ім укладзены значныя сродкі, затрачана шмат фізічных сіл (найперш нерваў), рынак працуе рытмічна. Пастаўце сябе на ягонае месца. Вядома, будзеце змагацца да канца.

Шчыра скажу, складваецца ўражанне, што ідзе нейкая закулісная гульня, а я нібы староннi назіральнік не магу ўцяміць гэтага. Відаць, так адбываецца заўсёды, калі «круцяцца» грошы.

Можна падумаць, што пры стварэнні новага рынку знікнуць заўвагі з боку санэпідстанцыі ці міліцыі. Ніколі. Дык у чым справа?

... Знаёмы міліцыянер, прыязджаючы са службы, адразу ідзе не дахаты, а на базарчык. Неяк пасміхаючыся, шчыраваў:

— Бабкі бачаць, што ў форме, дык даюць цыгарэты. Каб не чапаў іх.

Чым не рэкет?

Шмат магу сказаць і пра некаторых работнікаў санэпідстанцый. Я не абагульняю. Але такіх фактаў мноства. Мы да гэтага лагодна, памяркоўна ставімся. Маўляў, што ж зробіш, жыць неяк трэба... Ага, за наш кошт!

Нядаўна сустрэў калегу, таксама з рэспубліканскай газеты. Вопытны журналіст. Ад ягоных слоў разгубіўся:

— Чуў, што займаешся рынкам ва Уруччы. Мне таксама давалі дакументы. Адмовіўся. Глядзі — будзь асцярожны...

— Чаму?

— Я сказаў, а ты думай...

Вось і думаю. Над ягонымі словамі, над сітуацыяй, якая, на першы погляд, абсалютна звычайная.

**Міхась ТАЛОЧКА.**

*ЖЫЦЦЁ*

# ПАРАНЫ ГАРОХ

**— Раней карася ці карпа можна было лавіць і на хлеб, а сёння і на матыля не бяруцца.**
**— А на шыціка?**
**— Слаба.**
**— А ты паспрабуй на параны гарох. Заглыне!**



Гэтая, выпадкова пачутая размова рыбаловаў усплыла ў памяці не выпадкова. Нашы людзі яшчэ неспрактыкаваныя і вельмі часта хапаюць прынаду, якую ім падкідваюць вынаходлівыя прайдзісветы.

Некалькі гадоў назад пайшла мода на гульні, якія ўдзельнікам абяцалі вялікія грошы. Неабходна было пераслаць пэўную суму па ўказанаму адрасу, загітаваць яшчэ чалавек пяць на гэтую гульню і чакаць, калі хлынуць грошы ў геаметрычнай прагрэсіі. І многія паверылі, што могуць стаць мільярдэрамі.

Аўтар «Капіталу» меў рацыю, калі сказаў, што ва ўсім трэба сумнявацца. І людзі сталі больш асцярожнымі, але і прынаду ім падкідваюць ужо не так груба. Іншы раз спакуса вельмі вялікая.

Нейкая «фірма» з Ліды распаўсюдзіла ў гарадах Заходняй Беларусі аб'явы, у якіх запрашала на працу. За прыгатаванне біяўгнаенняў абяцала да 700 долараў у месяц. Шалёны заробак!

Напачатку ў «фірму» неабходна было напісаць ліст са сваім адрасам, а пра перасылку грошай нічога не гаварылася. Вось у гэтым і заключалася ўся тонкасць падману. Галоўнае — выклікаць у чалавека давер. Грошы перасылаліся ўжо на другім этапе, калі чалавеку абяцалі прыслаць выклік на работу. Гэтага выкліку людзі чакаюць ужо год.

Тут, можна сказаць, класічны падман. І каб ва ўсім разабрацца, дастаткова наведаць саму «фірму». Тут і выявіцца, што фірмы ніякай няма. Звычайны авантурыст сядзіць у сваёй кватэры і вядзе перапіску з даверлівымі грамадзянамі.

Але часта прапаноўваецца і рэальны тавар, у якім нічога кепскага нельга западозрыць.

Беларуска-польская фірма рэкламуе печань траскі, дужа багатую вітамінамі ды і нагул смачны далікатэс.

Кансервы з жоўтай этыкеткай запоўнілі паліцы нашых магазінаў. Трохсотграмовы бляшанак каштуе дзесьці пад трыццаць пяць тысяч. Знешне кансерва падазрэння не выклікае, але калі адкрыеш яе, то адчуваеш сябе поўным дурнем. Абвялі вакол пальца. Падсунулі закансерваваны алей, у якім плавае кавалачак печані. Хаця па стандарту печані павінна быць 70 працэнтаў, а алею — 30 працэнтаў. У бляшанцы ўсё наадварот. Вось і стаіць кабета перад прылаўкам і трасе каля вуха кансерву. Выбірае, але там толькі боўтаецца і плюхае. Я аднойчы ператрос цэлую скрынку, пяцьдзесят бляшанак, і выбраў толькі адну, ды і то алею было паўбляшанкі.

Хоць фірма і сумесная, але прадукцыя чамусьці ідзе на беларускі рынак. Паляк аддае перавагу нямецкім кансервам. У якіх печань траскі ўкладзена шчыльна і роўненька, кавалачак да кавалачка.

Гэта з кансервамі так. Іх купляеш як ката ў мяшку. Тут прыходзіцца спадзявацца толькі на сумленне тых, хто выпускае гэтыя кансервы.

Ужо здаецца, што цябе цяжка падмануць. Ты асцярожны і ва ўсім сумняваешся. І ўпэўнены, што не тое каб на хлебны мякіш, але і на параны гарох цябе не ўзяць. Ды толькі дзе там, зноў пападаешся.

Іду па рынку. Дзесяткі радоў, сотні прамтаварных палатак. Прыцягвае ўвагу прадавец, гэткі салідны барадаты купец, які спецыялізуецца на продажы кашуль. Тавар падкупляе разнастайнасцю і гармоніяй колеру. Выбіраю сабе цёмна-карычневую кашулю. Гузікі фірмовыя. Кішэні на грудзях мудрагелістыя і адна маленькая кішэнька на спіне, паміж лапаткамі. Калі прышылі, то для чагосьці яна там патрэбна.

— Чыстая бавоўна, — хваліць прадавец, а ў самога шчокі, як сонейка на захадзе ірдзеюць, — аж з Пакістана прывёз. Цэтлік — пядзя на пядзю. Відаць, што тавар не-тутэйшы. А наконт бавоўны мяне не ашукаеш. Сам бачу, што не сінтэтыка.

Купіў. Прынёс дамоў і ўбачыў, што нітачка вісіць. Тузануў — і гузік адскочыў. Пацягнуў за другі — і зноў на адзін менш стала. Прыгледзеўся і ўсе гузікі перашыў. Панасіў пару дзён і кінуў кашулю ў балею. І закаламуцілася вада, як у тарфянай яме, а кашуля мая адразу ж стала светлай і лінялай. І пасля другога мыцця вада не пасвятлела, да таго ж на ёй з'явіліся дзірачкі.

І справа тут не ў тых 250 тысячах, што прыйшлося заплаціць, а прыкра адчуваць сябе дурнем. І здаецца, што шылі тыя кашулі не ў Пакістане, а дзесьці вельмі блізка.

Дарэчы, я зразумеў, для чаго на спіне той кашулі маленькая кішэня. Вядома ж, для паранага гароху.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# ПІЎЗАВОД У ГЛЫБІНЦЫ

**На Віцебшчыне мужчыны, схільныя да гэтага напою, некалі жартавалі: ёсць піва добрае, дрэннае і глыбоцкае. Такім чынам яны са свайго пункту гледжання ацэньвалі смакавыя якасці піва, якое варылі ў глыбінцы, на піўзаводзе райцэнтра Глыбокае.**



Дзяржаўных піўзаводаў у вобласці тры — у Віцебску, Оршы і Полацку, што і, зразумела: самыя буйныя гарады, тут і смага мае адпаведныя памеры. Заводы са шматгадовай традыцыяй, вядомасцю. Адпаведна і прыхільнікамі. А ў Глыбокім піўзавод пабудавалі толькі ў 1967 годзе, напэўна, каб «закрыць» заходнія раёны вобласці, аддаленыя ад буйных гарадоў. Прычым, стаў піўзавод не дзяржаўным, як яго старэйшыя браты, а спажыўкааператыўным. Дарэчы, у рэспубліцы ў сістэме спажывецкай кааперацыі яшчэ толькі два заводы — у Рагачове і Клічаве.

Так і існавала прадпрыемства ў стане паўбязважкасці: канкурыраваць няма з кім — «зубры» ж у іншай сістэме, у раёне яно лічылася як бы асобна, нібыта і не прадпрыемства. Ну а прадукцыю, якой бы яна якасці ні была, бралі ўсё роўна...

Можна было і ўпусціць сітуацыю, але ў Глыбокім своечасова зразумелі, што надыходзяць часы, калі дыктаваць умовы будзе толькі пакупнік, што ён галоўны дэгустатар.

Сёння на заводзе выпускаецца больш за дзесятак найменняў разнастайных напояў. Вядома, большасць з іх на так званых заходніх араматызатарах. Але ёсць і свае, ёсць мінеральныя воды. Ужо запушчаная лінія для разліву безалкагольных напояў у пластмасавыя 1,5- літровыя бутэлькі. Прычым купілі толькі разлівачную машыну, усё астатняе зрабілі самі. Ліманад, напоі, дарэчы, даюць рэнтабельнасць больш высокую, чым піва.

Ну а што ж з півам?

Тут рэзка адмовіліся ад «Жыгулёўскага». Памянялі карэнным чынам тэхналогію і стварылі свае гатункі. Стварылі тыя ж людзі, якія проста адбывалі на заводзе свой працоўны дзень. Напрыклад, майстар-півавар Валянціна Аляксандраўна Гігола. Але гэта цяпер зацікаўлены і горды сваёй справай чалавек, у якога новыя задумкі. Першай была «Аржаніца» — светлае піва, якое атрымала сваю назву ад мясцовай рачулкі. Але славу (напэўна так, менавіта славу) мясцовым піваварам прынеслі «Славянскае» і «Барскае». Яны цёмныя, таксама створаныя па ўласных тэхналогіях. Гэта піва сёння могуць купіць аматары і ў Полацку, і ў Мінску. І купляюць, ёсць вялікі попыт. Трапляе глыбоцкае піва нават у Расію. Вось, на жаль, вытворчасць яго нельга павялічыць. Перашкаджае адсутнасць дастатковай колькасці соладу. Вытворчасці яго завод па тэхналогіі не прадугледжваў. А сёння пабудаваць сваю саладоўню — гэта тое ж самае, што і новы завод. Даводзіцца выпрошваць на іншых піўзаводах. Ды солад сёння вельмі ахвотна купляюць у Расіі.

Піва «Славянскае» і «Барскае» не толькі смачнае, грэшны — дэгуставаў, але і крыху таннейшае за іншыя. Таму глыбаччане сёння ўжо здольныя не варагаваць, а канкурыраваць з палачанамі. Праўда, аб'ёмы не тыя.

Рэнтабельнасць у завода — 28 працэнтаў. Гэта дазваляе весці рэканструкцыю, нават нейкае будаўніцтва. Кіраўнік прадпрыемства Анатоль Дударонак паказваў мне асноўную вытворчасць, дапаможныя цэхі. Ёсць, напрыклад, свой міні-цэх па перамотцы электрарухавікоў — вытворчасць жа вільготная, свой цэх па пашыву спецадзення ( яго, аказваецца, выгадней пашыць). Працуюць на заводзе 110 чалавек, у бліжэйшы час створаць яшчэ 15-16 рабочых месцаў.

Але не пра ўсё гаварыў, не на ўсе пытанні адказаў кіраўнік. Ёсць пэўныя тайны. Значыць, трэба чакаць і новай прадукцыі.

**Алесь КАСЦЕНЬ.**

*БЫВАЛІЦЫ*

## ЛЁГКАЯ РАБОТА

Самая разумная і хітрая кабета на вёсцы — Марыя Станчык. Яна глядзіць тэлевізар і ведае пра ўсё на свеце. Як жывуць людзі ў Балівіі і як нясуцца куры ў суседкі. Ты Марыі слова скажаш, а яна табе — дзесяць. Прыжмурыць адно вока і глядзіць на субяседніка хітра-хітра.

Памерла ў Марыі свякроў. Яна жыла ў сваёй хаце праз дарогу і з нявесткаю ўмела мірыцца, таму вялікай крыўды паміж жанчынамі не было. Пахаваннем старой камандавала Марыя. Усё зрабіла як след і запрасіла бацюшку адпяваць. Айцец Фёдар пачытаў малітвы ў хаце, а затым разам з усімі пайшоў за трунoй на могілкі.

Зіма яшчэ не наступіла, але сцюдзёны вецер прабіраў да касцей. Труну паставілі каля магілы і адкрылі. Бацюшка трымаў у пасінелай руцэ крыж і спяваў. Вочы слязіліся, а на кончыку носа завісла празрыстая кропля. Магілу засыпалі, Марыя выбрала момант, калі бацюшка адышоў убок, і працягнула грошы. Стос «зайцоў» і «ваўкоў» быў перавязаны вяровачкай. Айца Фёдара цяжка было абхітрыць. Толькі зірнуў на грошы, як сказаў:

— Тысяч пяць будзе. Па сённяшнім часе малавата.

А калі бацюшка грошы ўсё ж узяў, Марыя не ўтрымалася.

— Але ж, бацюшка, і работа лёгкая. Не дровы пілаваць.

Мінуў нейкі там час, і памерла ў Марыі маці. Пайшла яна да айца Фёдара, бо муж ісці адмовіўся.

— Ты з маёй маці ўправілася, то сваю грэх не пахаваць, — сказаў ён.

Бацюшка складваў пад страху хлевушка дровы і сустрэў Марыю ветліва.

— Бацюшка, маці вось памерла,.. — пачала Марыя.

— Ведаю пра тваё гора, — сказаў айцец Фёдар, — а што ты ад мяне хочаш?

— Можа, адпелі б?

— А чаму б табе, Марыя, самой не адпець? Работа ж лёгкая. Гэта ж не дровы пілаваць... Вось так вось, Марыя, — закончыў бацюшка і пайшоў пераапранацца.

## СІЛА ДАВЕРУ

Пакупнікоў было мала, і прадаўцы сумавалі. Але як толькі на рынку з'явіліся цыганы, за прылаўкамі заварушыліся. Цыганы разышліся па радах, вялі сябе даволі ціха і толькі цыганяты бегалі ад аднаго прылаўка да другога. Мацалі тавар і штосьці крычалі бацькам. Прадаўцы іх праганялі і пільна сачылі за сваім шакаладам ды жуйкамі. Сцяна непрыязнасці і варожасці.

І тут сям'я цыганоў параўнялася з прылаўкам, за якім стаяла жанчына ў акулярах.

— Калі ласка, выбірайце, — сказала яна і паднялася з месца, — вось шакалад з лясным арэхам, а гэты з земляным, а тут...

Дзеці абступілі прылавак. Цыганка купіла дзве шакаладкі, і сям'я адышла.

Затым усе цыганы сабраліся ў канцы прылаўкаў, штосьці паміж сабой пагалёкалі і ўсім табарам рушылі да жанчыны ў акулярах. Першымі беглі дзеці, за імі ішлі жанчыны, мужчыны трымаліся спакойна і толькі ківалі галовамі. Куплялі каву, пячэнне, шакалад... Жанчына толькі папраўляла акуляры. Праз некалькі хвілін у яе прылавак значна пасвабаднеў.

— Намнога абакралі? — спытала суседка, калі цыганы адышлі.

— Ды, здаецца, не, — адказала жанчына і паправіла акуляры.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

*БЮРАКРАТЫЯ*

# ЯК МЯНЕ НАГРЭЛІ... БЕЗ ЭЛЕКТРАВОДАНАГРАВАЛЬНІКА

Дарагая рэдакцыя! Дапамажыце хоць крыху разабрацца ў рабоце і абслугоўванні насельніцтва Гродзенскіх электрасетак. У нашай вёсцы Новы Двор у сувязі з цяжкім энергетычным становішчам каля трох гадоў назад адключылі кацельню ў двухпавярховых дамах, адпаведна цэнтральнае ацяпленне і гарачую ваду. Людзі кінуліся класці печкі, а дымавыя трубы павыводзілі хто ў вентыляцыйныя каналы, хто праз дах. Каб не застацца без цяпла і гарачай вады, я вырашыў набыць электраводанагравальнік і ўстанавіць яго ў ванным пакоі. І дачка купіла мне ў Мінску электраводанагравальнік бытавы, аднафазны ізраільскай вытворчасці. Магутнасць яго ад 1,5 да 4,5 кілавата.

Вось тут і пачаліся ўсе мае клопаты. Электрыкі саўгаса сказалі, што на падключэнне патрэбен дазвол Шчучынскіх раённых электрасетак. Паехаў у г. Шчучын. У тэхнаглядзе гэтых электрасетак мне сказалі, што патрэбны дазвол тэхнагляду «Гроднаэнерга». Атрымаў і яго. Але, як высветлілася, каб падключыцца, трэба атрымаць тэхумовы ў Гродзенскай ПЭС. Завёз я туды сваю заяву, дазвол «Гроднаэнерга» і пашпарт электраводанагравальніка. Там мне паабяцалі, што праз некалькі дзён атрымаю гэтыя тэхумовы. Чакаю тыдзень, другі, месяц. Еду зноў у г. Гродна, у ПЭС. І што чую? А тое, што Мікуліч Віктар Іванавіч не дазваляе. Іду да яго. Ён гаворыць, што вялікая магутнасць награвальніка, і паказвае нейкую інструкцыю, на якой грунтуе сваю адмову, але прачытаць мне яе не даў.

Паважаны Віктар Іванавіч, аднак вас нікольке не хвалюе, што я праездзіў дзве пенсіі. Жонка ў мяне інвалід, ёй патрэбны вельмі дарагія лякарствы і прадукты харчавання — таксама.

Дык вось, дарагая рэдакцыя, Гродзенскі завод бытавой тэхнікі выпускае электраводанагравальнікі з такой жа магутнасцю- - ад 1,5 да 4,5 кілавата. Цікава, для каго ён выпускае і дзе іх устанаўліваць?

І яшчэ. Няўжо ізраільскія інжынеры дурнейшыя за нашых гродзенскіх?

Вельмі прашу вас дапамагчы мне выбрацца з зачараванага кола, у якое я трапіў па віне работнікаў электрасетак.

**Віктар ЛЯХ,**
**жыхар в. Новы Двор Шчучынскага раёна.**

**Ад аддзела пісьмаў**

*Да свайго пісьма Віктар Станіслававіч прыклаў копію дасланага яму адказу. У ім чорным па беламу напісана:*

*«ПОЭ і Э «Гроднаэнерга» не мае тэхнічнай магчымасці на падключэнне бытавога воданагравальніка ў аднафазным выкананні магутнасцю 4,5 кВт у ванным пакоі кватэры і не супраць падключэння воданагравальніка ў трохфазным выкананні».*

*Што тут можна сказаць? Замест таго, каб дапамагчы чалавеку, які сваімі сіламі, за свае сродкі хоча мець элементарныя камунальныя выгоды, якіх яго пазбавілі, яму ўсюды работнікі службы электрасетак робяць «кароткае замыканне». А гэта ні што іншае, як бюракратычная валакіта самай высокай фазы.*



*Угадай мелодыю!* **Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

# УРАДЖАЙ ЯБЛЫКАЎ НА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ ВЫКЛІКАЎ ПРАБЛЕМУ ІХ ПЕРАПРАЦОЎКІ

**На фоне незвычайнага для Гомельшчыны ўраджаю яблыкаў выразна праявіліся праблемы перапрацоўчай галіны.**

Да Гомельскага вінаробчага завода выстрайваюцца чэргі з дзесяткаў аўтамашын з яблыкамі, якія вымушаны прастойваць ля варот прадпрыемства ў сярэднім па трое сутак. Пры магутнасці перапрацоўкі 100 тон у суткі прадпрыемства ў стане перапрацоўваць штодзённа 120—150 тон яблыкаў. На думку дырэктара вінаробчага завода Уладзіміра Старавойта, такую сітуацыю справакавала слабасць мясцовай перапрацоўчай прамысловасці, аднаўленню якой не надавалася належнай увагі пасля спынення вядомай барацьбы з алкагалізмам у 80-х гадах. Застаецца спадзявацца, што лёс яблыкаў не паўтораць у гэтым годзе іншыя віды сельскагаспадарчых культур.

**Ірына ШАНЦАВА, БелаПАН.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 5.58 | 20.26 | 14.28 |
| Віцебск – | 5.45 | 20.19 | 14.34 |
| Магілёў – | 5.48 | 20.15 | 14.27 |
| Гомель – | 5.51 | 20.06 | 14.15 |
| Гродна – | 6.16 | 20.38 | 14.22 |
| Брэст – | 6.19 | 20.37 | 14.18 |

### МЕСЯЦ

Першая квадра 22 жніўня.

### ІМЯНІНЫ

Пр. Матфія, Антонія, Іаана, Пятра, Марыі

К. Марыі, Цызарыя

### НАДВОР`Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па паўднёвай палавіне рэспублікі месцамі пройдуць кароткачасовыя дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра ў Брэсце, Гомелі — 25—27, Мінску, Гродне — 26—28, Віцебску, Магілёве — 27—29 градусаў.

У наступныя двое сутак па паўднёва-ўсходняй палавіне рэспублікі пройдуць кароткачасовыя дажджы, месцамі з навальніцамі. Тэмпература ўначы — 12—17, удзень — 24—29 градусаў цяпла.

## АПЕРАТЫЎНА

### ПАДПАЛЬШЧЫКІ ЗАМАХНУЛІСЯ НА ЧЫГУНКУ

**18 жніўня каля 9 гадзін раніцы ў Гомельскі АУС на транспарце ад дыспетчара руху паступіла паведамленне, што ўначы (прыблізна паміж 3.00 і 5 гадз. 30 хвіл.) на прыпыначным пункце «Гардуны» Добрушскага раёна была зроблена спроба падпалу білетнай касы.**

Падпальшчыкі, адагнуўшы металічныя краты, кінулі ў акенца касіра запалены прадмет. Як паведамілі ў прэс-групе ўпраўлення ўнутраных спраў на транспарце, на шчасце, ад агню пацярпелі толькі шпалеры. Матэрыяльныя каштоўнасці і абсталяванне не пашкоджаны.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

### А ШТО Ў БОЧКАХ? СПІРТ, ВЯДОМА

**Менавіта такія адказы часта чуюць супрацоўнікі міліцыі, падатковай інспекцыі і мытні Гомельшчыны, калі на лясных дарогах спыняюць машыны, што ідуць з Украіны ў нашу рэспубліку.**

Апошнім часам на нелегальных маршрутах гэтага «п'янага тавару» канфіскавана столькі спірту, што дзіву даешся.

Так, жыхар украінскага горада Гародня вёз той вогненнай вадзіцы дзвесце літраў, а другі — з іншага горада — на КамАЗе — шэсць тысяч літраў. У Мазыры гарэлачны канвеер арганізаваў міжнародны дуэт украінкі і беларуса. І падобных прыкладаў многа. І хаця сёння гэтага тавару канфіскавана ў даход дзяржавы на сотні мільёнаў рублёў, паток яго не змяншаецца па той прычыне, што на Украіне спірт і гарэлка таннейшыя, чым у нас, а жыццёвы ўзровень — ніжэйшы. Вось і цякуць на Гомельшчыну рэкі ўкраінскага спірту і гарэлкі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

### КАНЕЦ «ФОКСА»

**Яшчэ ў сакавіку за ўчыненне 10 разбойных нападаў і аднаго кватэрнага крадзяжу з выкарыстаннем формы работніка міліцыі ў Мінску былі затрыманы двое маладых грамадзян, Саўдзельнік жа гэтай злачыннай групы, ураджэнец Буда-Кашалёўскага раёна, уцёк.**

У работнікаў міліцыі мелася інфармацыя, што ён жыве ў сталіцы, знаходзіцца на нелегальным становішчы, здымаючы кватэры па аб'явах у газетах. У поле зроку трапіла яго даўняя сужыцелька. У ходзе прадуманай і добра спланаванай аперацыі вышукваемы быў нарэшце затрыманы на вуліцы Захарава ў момант сустрэчы з ёй. У выніку аператыўных мерапрыемстваў ён быў таксама выкрыты ва ўчыненні яшчэ аднаго разбойнага нападу на гаспадыню кватэры па праспекце Пушкіна 13 красавіка 1995 года з выкарыстаннем формы работніка міліцыі з ордэнскімі планкамі і двух кватэрных крадзяжах. Следства працягваецца.

**Васіль КУРЛОВІЧ, прэс-цэнтр МУС.**

### МАЛАЛЕТНІЯ РАБАЎНІКІ І ПРАЦУЮЦЬ ПА-МАЛОМУ

**Чытач ужо прызвычаіўся да таго, што на старонкі перыядычных выданняў рэгулярна трапляюць факты злачынстваў, учыненых дарослымі. З дзіцячай злачыннасцю, на першы погляд, у рэспубліцы зацішша. Але гэта толькі на першы погляд.**

21 жніўня ў Цэнтральны РАУС Магілёва звярнулася мясцовая жыхарка і паведаміла, што ў першай палове дня ў пад'ездзе дома дзве дзяўчыны адабралі ў яе 10-гадовай дачкі залаты ланцужок. Злачынак хутка затрымалі. Імі аказаліся калгасніца 1975 года нараджэння і навучэнка ПТВ, 1980 года нараджэння.

У той жа дзень звярнуўся да праваахоўных органаў Магілёва па дапамогу і кіраўнік АТ «Акорд». Двое невядомых забралі ў яго сына-дзесяцікласніка 10 долараў ЗША і 10 тысяч рублёў. За злачынства затрыманы двое непрацуючых мясцовых жыхароў 1979 года нараджэння.

**Пётр РАБКАВЕЦ, прэс-цэнтр МУС.**
**Сяргей ПРОТАС.**

### А ПАД ДЗВЯРЫМА СТАЯЛІ РАБАЎНІКІ...

**У 11 гадзін вечара ў панядзелак у Цэнтральны РАУС Гомеля звярнулася хатняя гаспадыня і заявіла, што яе кватэру абрабавалі.**

Яна адчыніла дзверы кватэры двум невядомым мужчынам, якія прадставіліся сябрамі яе мужа. Далей падзеі разгортваліся па вядомаму ў такіх выпадках сцэнарыю. Гаспадыню злачынцы звязалі, а самі пачалі хапаць усё, што, на іх думку, уяўляла найбольшую каштоўнасць. Са здабычай рабаўнікам пашанцавала — ужо праз некалькі хвілін у іх сумках і кішэнях апынуліся два фотаапараты, два тэлефоны, 20 вырабаў з золата, 15,5 мільёна беларускіх рублёў, 30 мільёнаў расійскіх рублёў, 600 долараў ЗША, 60 нямецкіх марак... З месца здарэння злачынцы ўцяклі.

**Сяргей ПРОТАС.**

### БЫЧЫНЫ МАНЬЯК?

**Нешта неверагоднае творыцца ў саўгасе «Баршчоўка» Рэчыцкага раёна. Тут, як мяркуюць мясцовыя жыхары, з'явіўся маньяк, хобі якога — забойства ў начны час цялушак і бычкоў.**

У жніўні зарэгістраваны два такія факты, калі ў кашары і хляве малочнатаварнай фермы ад яго рукі загінулі пяць жывёлін, якім ён учыніў парэзы брушной поласці. Цікава, што вартаўнік, аказваецца, на МТФ ёсць. Які? Гэта ўжо іншая справа.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

З НАГОДЫ

# Мікалай ЛАПАЦІК: «У НАС НЕ ТЫЯ МУНДЗІРЫ, КАБ ІХ ЧЫСЦІЦЬ»

**ПА НАШЫМ ЧАСЕ СЕНСАЦЫЯ: у першым паўгоддзі агульная злачыннасць на Магілёўшчыне скарацілася на 12 працэнтаў. Гэта пры тым, што міліцыя рэгіструе зараз нават такі дробны факт, як крадзеж качана капусты, а ўмовы для крымінальнага асяроддзя засталіся практычна такімі ж, што і раней, — спрыяльнымі. Што ж у такім разе дазволіла магілёўскім вартавым правапарадку пачаць гасіць хвалю злачыннасці?**

— Пачалі з сябе, — расказвае начальнік УУС аблвыканкома палкоўнік міліцыі Мікалай Лапацік. — З кадраў. Пазбавіліся ад тых, хто не жадаў або не ўмеў працаваць. Меры тут розныя. Спынюся на адной, якая практыкуецца толькі ў нашай вобласці. Кожны год супрацоўнік міліцыі павінен здаць экзамены на прафесіянальную прыгоднасць. Не здаў — даём тэрмін для падрыхтоўкі да паўторнай экзаменацыі. Калі ж і на гэты раз «праваліўся» — бяры шынель, ідзі дамоў.

Мінулагодні — а гэта быў першы вопыт — паказаў, што адпавядалі патрабаванням службы далёка не ўсе. І ў фізічным, і ў юрыдычным, ды і ў маральным плане. З многімі развіталіся.

Паступіць да нас на работу можна, як пры цары: нясі з сабой пісьмы-рэкамендацыі ад вядомых і аўтарытэтных людзей . Словам, павысілі патрабавальнасць, у тым ліку да афіцэраў. Дарэчы, штат упраўлення не павялічыўся ні на адзінку, мяркуем нават скараціць яго на 30 працэнтаў. Супрацоўнікі апарату сталі ўдзельнічаць у «жывых» аперацыях, часцей працаваць не ў штабе, а на перадавой. Людзі зразумелі, што атрымліваюць грошы не за час, а за канкрэтную работу, рэальны вынік.

**— Тым не менш, са злачыннасцю не пакончана. За апошні тыдзень, напрыклад, адбылося 309 злачынстваў.**

— Так. Але 213 з іх прыпадаюць на крадзяжы. Да кожнага ўласніка міліцыянера не прыставіш, тут самі фізічныя і юрыдычныя асобы павінны клапаціцца аб ахове сваёй маёмасці.



**— Ці існуе ахова матэрыяльных правоў ахвяры, калі злачынства не раскрыта?**

— Па-першае, раскрываем прыкладна 60 працэнтаў злачынстваў, сярод іх ёсць нават такія, што ўчынены 15 гадоў назад. Ніводнае сур'ёзнае правапарушэнне намі не забыта і ў архіў не спісана. Па-другое, кампенсацыяй урону ахвярам зламыснікаў міліцыя не займаецца. Гэта ў кампетэнцыі Дзяржстраха або іншых страхавых кампаній.

**— Разам з крадзяжамі павялічваецца і падлеткавая злачыннасць.**

— Каго выхоўваем, таго і атрымліваем. Бацькоў непаўналетніх парушальнікаў мы ўгаворваем, можам аштрафаваць і ўсё. Міліцыя ж у асноўным працуе па фактах, якія ўжо адбыліся.

**— Што вам вядома аб амністыі 96-га года?**

— Такі праект існуе, але аб яго ажыццяўленні гаварыць заўчасна. Калі амністыя і адбудзецца, то вызвалім тых, хто ўчыніў нязначныя злачынствы. А ўвогуле праблема ёсць. Асабліва ў дачыненні да Магілёўшчыны, дзе сканцэнтравана 40 працэнтаў усіх беларускіх «зэкаў». Працуе ж з іх толькі кожны трэці. Такая эканамічная сітуацыя ў краіне, цяжкая яна і ў папраўчых установах.

**— Як вы ставіцеся да пакарання смерцю?**

— Я супраць. Чалавек народжаны для жыцця. Аднак, на маю думку, грамадства да такога міласэрнага кроку яшчэ не гатова. Пакаранне смерцю можа быць заменена пажыццёвым зняволеннем. Дзяржава ж — давайце глядзець праўдзе ў вочы — не можа пакуль забяспечыць гэта. Ды і ёсць вылюдкі, якія заслугоўваюць смерці.

**— За гады рэформаў у вобласці ўчынена 5 заказных забойстваў.**

— І лічба, і кваліфікаванне злачынстваў недакладныя. Гэта, мабыць, пайшло «ў людзі» з лёгкай рукі журналістаў, якія не заўсёды адказна ставяцца да інфармацыі. Мы не можам гаварыць нават аб арганізаванай злачыннасці, бо наконт яе яшчэ няма адпаведнага закона.

**— На праспекце Шміта міліцыянеры разагналі бабулек, якія гандлявалі семкамі, адабралі ў іх цыгарэты, абражалі...**

— Канкрэтна пра гэты выпадак мне невядома. А што датычыць нетактоўных паводзінаў нашых работнікаў, грубасці або там рукапрыкладства, дык з такім негатывам — а ён ёсць — змагаемся. У нас не тыя мундзіры, каб іх чысціць. Не трэба рабіць плям. На таго ж, хто сур'ёзна праштрафіўся, справу без ваганняў накіроўваем у пракуратуру.

Пра семкі. Ніхто не супраць, каб імі гандлявалі. Але няхай мясцовыя адміністрацыі адвядуць для гэтага пэўныя месцы. А то паглядзіце — увесь горад запляваны шалупіннем. З антысанітарыяй, на жаль, даводзіцца змагацца і нам. Не кажу ўжо пра дробную спекуляцыю тымі ж цыгарэтамі, якая набыла характар цунамі. Зразумела ж, тут патрэбны эканамічныя, а не адміністрацыйныя меры.

**Запісаў Васіль ЛЕЎЧАНКА.**

**P. S.** *Пытанні, адрасаваныя Мікалаю Іванавічу, задаваў не карэспандэнт, а звычайныя людзі, жыхары Магілёўскай вобласці. Прагучалі яны ў прымым эфіры па радыё. Адкрытасць і даступнасць абласнога «шэрыфа» — гэта яшчэ адзін штрых да характарыстыкі перамен у рабоце магілёўскай міліцыі.*

# ЯШЧЭ РАЗ АБ ПАКАРАННІ СМЕРЦЮ...

У СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ сістэматычна бушуюць страсці, ці патрэбна ў нашай маладой дзяржаве пакаранне смерцю. І паколькі рэспубліка ў перспектыве будзе прынята ў Савет Еўропы, усё часцей выказваецца думка аб неабходнасці адмены пакарання смерцю. Больш востра паўстае гэта пытанне ў сувязі з верагодным яго вынясеннем на рэферэндум. Частка грамадства лічыць пакаранне смерцю злачынцаў антыгуманнай акцыяй, феадальным перажыткам, недэмакратычнай мерай і г. д. Але многія глыбока перакананы ў неабходнасці прымянення расстрэлу за ўчыненне асабліва цяжкіх злачынстваў, у першую чаргу наўмысных забойстваў пры абцяжваючых віну абставінах. І, на мой погляд, цяпер нельга адмяняць вышэйшую меру пакарання. Асабліва за злачынствы супраць асобы.

Не магу пагадзіцца, калі забойцы малалетніх дзяцей застаюцца жыць, беспрычынна пазбавіўшы іх жыцця. Магчыма, некаторыя не згодны з гэтым. Прывяду некалькі прыкладаў — і падумайце самі.

Муж і жонка Уладзімір Шапавалаў і Наталля Міраненка часта пілі. Аднойчы яны зайшлі да сваёй знаёмай Алены Іванчыкавай. Выпілі. Там паспрачаліся са знаёмым гаспадыні Я. Мураўёвым. Госці ўхапілі нажы і накінуліся з імі на Мураўёва. Ён загінуў. А потым забілі і гаспадыню. Каб пазбавіцца ад сведак, увайшлі ў дзіцячую спальню, дзе спакойна спалі сямігадовая Вікторыя і аднагадовы Ілья. Нажом забілі абаіх, затым вынеслі частку рэчаў і падпалілі кватэру. Нельга без дрыжыкаў чытаць заключэнні судова-медыцынскай экспертызы. У дарослых былі дзесяткі нажавых ран, у Вікторыі і Ільі — па 4-5 раненняў у вобласці сэрца, жывата, шыі, практычна кожнае з якіх — смяротнае. Як рука паднялася забіць дзяцей, што спалі, аднаму з якіх годзік, які з яго мог быць сведка?

Нават гэтыя забойствы не спынілі злачынцаў. На другі дзень яны прыйшлі яшчэ да адной знаёмай, Г. Зінчук, і з мэтай авалодання яе рэчамі ўдарылі яе нажом у сэрца, ад чаго Зінчук сканала на месцы. Пяцёра забітых, з іх двое дзяцей. Судовай калегіяй па крымінальных справах Гомельскага абласнога суда У. Шапавалаў прыгавораны да пакарання смерцю, а Н. Міраненка — да 14 гадоў зняволення.

У Магілёве судовай калегіяй па крымінальных справах аблсуда ў бягучым годзе разгледжана справа ў адносінах да Сяргея Чарніцкага, 1964 г. нараджэння, раней асуджанага 4 разы. Вызваліўшыся з месцаў пазбаўлення волі, Чарніцкі, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, узяў нож з выкідным лязом. Потым у Магілёве выклікаў з дому свайго знаёмага А. Бязрукава, без дай прычыны ўдарыў яго нажом у левую лапатку. Пацярпеўшы не памёр толькі дзякуючы хутка аказанай медыцынскай дапамозе. Праз два тыдні, устанавіўшы месца пражывання другога свайго знаёмага, В. Тарасава, Сяргей прыйшоў да яго на кватэру. Паколькі Тарасава дома не было, Чарніцкі пачаў сварку з яго маці, нанёс ёй удар нажом у сэрца, ад чаго яна сканала. Выходзячы з кватэры Тарасава, на вуліцы сустрэў А. Галубовіча і без усялякай прычыны перарэзаў яму артэрыю і вены на назе. Ад страты крыві пацярпеўшы памёр прама на вуліцы. І нават пасля гэтых забойстваў Чарніцкі адшукаў В. Тарасава, нанёс яму удар нажом, параніў сэрца і лёгкае. Дзякуючы ўрачам Тарасаў застаўся жыць.

Судовай калегіяй С. Чарніцкі прыгавораны да вышэйшай меры пакарання.

Вядома, можна выступаць за адмену пакарання смерцю і шмат гаварыць, калі злачынства ўчынена ў адносінах да іншых грамадзян, а не сваіх родных і блізкіх. Праўда, думка наконт гэтага рэзка мяняецца, калі злачынства закранае саміх. Таму давайце добра падумаем над гэтым пытаннем. З учыненых у 1995 годзе 1117 наўмысных забойстваў прыведзены ў выкананне прыгаворы ў адносінах да 30 злачынцаў. За 7 месяцаў бягучага года злачынцы гвалтоўна пазбавілі жыцця 612 грамадзян, 20 вінаватых па прыгаворах суда расстраляны.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**памочнік Генеральнага пракурора.**

# «УПАЎНАВАЖАНАЯ З МАГАЗІНА»

ПРОСТА ДЗІЎНА, з якой лёгкасцю нашы дамарослыя аферысты ўмудраюцца задурыць галаву нашым жа грамадзянам. Колькі ні пісалася, колькі ні гаварылася пра тое, як лёгка можна трапіць на кручок прайдзісветаў, даверлівых грамадзян не менее. Яны чамусьці забываюць вядомую прымаўку, што бясплатны сыр бывае толькі ў пастцы.

Недзе а другой палове дня з боку вуліцы Галадзеда, што ў г. Мінску, у кабінет начальніка ЖЭС-32 Іосіфа Ярашэвіча зайшла модна апранутая жанчына сярэдніх гадоў. Незнаёмка таямнічым шэптам паведаміла Ярашэвічу, што яна ўпаўнаважана дырэктарам магазіна № 10 «Пралеска» Д. Белаглазка прапанаваць супрацоўнікам ЖЭСа па нізкіх цэнах цукар і каўбасу. Пры гэтым назвала цану, значна ніжэйшую за магазінную. Маўляў, атрымалі прадукты да падаражання, пакінулі для сябе і сваіх знаёмых, а астаткамі вырашылі падзяліцца з «харошымі» людзьмі.

Супаставіўшы розніцу ў прапанаваных і існуючых у краме цэнах і прыкінуўшы ў галаве мяркуемую выгаду ад гэтага акта куплі-продажу, І. Ярашэвіч паспяшаўся паведаміць супрацоўнікам ЖЭСа аб з'яўленні добразычліўкі з падарункамі.

На прапанову дабрадзейкі адгукнуліся работніцы ЖЭСа Любоў Цвірко і Альбіна Нарбутовіч, якія перадалі «цукрова-каўбаснай упаўнаважанай» 760 тысяч і 220 тысяч рублёў адпаведна.

Па тавар пайшлі ўдваіх — А. Нарбутовіч і «прадстаўніца» прадмага. Папрасіўшы Нарбутовіч пачакаць некалькі хвілін каля магазіна (маўляў, самі разумееце, калі раптам штонебудзь заўважаць наведвальнікі, шуму потым не абярэшся), незнаёмка зайшла ў магазін і... знікла. Здзіўленыя прадаўцы магазіна, да якіх звярнулася Нарбутовіч з пытаннямі, дзе каўбаса і цукар, толькі развялі рукамі. Пошук таямнічай незнаёмкі, якая знікла з адным мільёнам рублёў, станоўчых вынікаў не даў. Са слязамі на вачах няўдачная пакупніца і паведаміла навіну свайму начальніку. Таму не заставалася нічога іншага, як зняць тэлефонную трубку і набраць «02».

Амаль тры дні супрацоўнікі міліцыі вялі пошукі лоўкай аферысткі. Нарэшце затрымалі яе. Як высветлілася, гэта была жыхарка г. Мінска Галіна Бяляева, якая нідзе не працавала. Па яе словах, такім чынам яна хацела папravіць сваё матэрыяльнае становішча.

Як сцвярджала гераіня аднаго мультфільма Ліса-Патрыкееўна: «Пакуль будуць на зямлі дурні, нам, махляркам, жыць будзе вельмі лёгка». Праўда, за махлярства Галіна асуджана на 3 гады пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прыгавору.

**А. МІХАЛКОВІЧ,**
**старшы следчы СУ УУС**
**Мінгарвыканкома.**

### «КАСКАДЗЁРЫ» ПАНЯВОЛІ

У Гомелі не перавяліся яшчэ аматары праверыць свае сілы і спрыт — пакарыць вышыню пятага ці шостага паверха. Так, 37-гадовы непрацуючы В. вырашыў трапіць на трэці паверх да сваёй знаёмай ды сарваўся і з разбітай галавой і пераломамі трапіў у бальніцу. У непрытомным стане дастаўлены туды і 22-гадовы В.К., які ноччу лез у сваю кватэру на пятым паверсе з балкона суседа і таксама сарваўся.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**







Малюнкі Леаніда Разладава

## Уладзімір Лукін:

# «Чачня — не Цусіма. Але эпізод — ганебны для Расіі...»

**Чачня... Боль і сорам расіян, горкае пачуццё безвыходнасці адначасова з парасткамі слабай надзеі. Гэтая надзея раптоўна блiснула са з'яўленнем на змрочным чачэнска-расійскім гарызонце А. Лебедзя. А што думаюць аб гэтым уплывовыя палітычныя фігуры ў Маскве? Вось што адказаў на пытанні журналіста Уладзімір ЛУКІН — старшыня Камітэта расійскай Дзярждумы па міжнародных справах.**

***— Уладзімір Пятровіч, няўжо Дума бяссільная прыняць нейкія меры для спынення кровапраліцця ў Грозным і наогул спыніць вайну ў Чачні?***

— У рамках расійскай Канстытуцыі Дзярждума робіць усё, што магчыма. Яна прыняла за час вайны не адзін дзесятак рэзалюцый. Нядаўна прапанавала прыняць закон аб надзвычайным становішчы ў Грозным. А крыху раней дэпутаты прагаласавалі за новы закон аб спыненні вайны. Але яго адхілілі ў Савеце Федэрацыі. Дык што, зноў прымаць закон, каб яго адхілілі?

***— Ці ёсць падобнае масавае процістаянне ўладзе ў іншых краінах ?***

— Ёсць прыклад, калі перамагла Алімпія ў Малоі, але ж там былі даволі спецыфічныя ўмовы... А тут ідзе гаворка аб народнай вайне, якую падтрымлівае значная частка насельніцтва Чачні. І гэта здарылася па віне федэральных уладаў. Да нашага ўмяшання там была вайна кланаў. А цяпер сітуацыя іншая... Народную вайну спыніць вельмі цяжка. У такой сітуацыі мне бачыцца здаравенны бамбіза з завязанымі вачыма, які трымае ў руках сякеру. Ён размахвае вакол сябе гэтай сякерай, сячэ, што трапляе пад руку. Аднак непадалёку стаіць маленькі, але з вострым зрокам чалавек, таксама ўзброены, і ён лупіць бамбізу па самых балючых адчувальных месцах, выклікаючы ў яго дзікі боль і шаленства. Вось так прыблізна бачыцца мне сённяшняя вайна ў Чачні.

***— Мо А. Лебедзь здолеў узяць сітуацыю пад кантроль?***

— Я шчыра жадаю яму поспеху, але ў той жа час баюся. Нядаўна на прэс-канферэнцыі генерал заявіў, што Масхадаў быццам бы згаджаецца на вырашэнне чачэнскай праблемы па варыянту Татарстана. Але па вопыту ведаю, калі людзі знаходзяць рацыянальнае рашэнне, на іх адразу наступаюць агрэсіўныя сілы з другога боку. Магчыма, такія словы Масхадавым былі сказаны. Але ж Лебедзю не варта было выносіць іх на шырокую аўдыторыю. Вопытныя дыпламаты так не робяць. Трэба ўмець прамаўчаць і працягваць рабіць сваю справу. Трэба развіваць гэты тэзіс, не ствараючы залішніх унутраных праблем для другога боку.

Я самы першы пачну пляскаць у ладкі, калі ў Лебедзя будзе добры вынік. Але ж усё роўна я лічу, што такія перамовы павінен весці вопытны дыпламат, які добра ведае прыёмы слоўнай гульні дыпламатаў. І тым больш — з такімі разумнымі і таленавітымі людзьмі, як Масхадаў і Удугаў.

***— А якой на ваш погляд павінна быць дзяржаўная структура, што возьмецца за вырашэнне чачэнскай праблемы?***

— У Расіі столькі ўжо настваралі розных камісій і саветаў, што ні адзін нармальны чалавек не здолее разабрацца ў іх, але калі Лебедзю даручана займацца гэтай справай, дык чаму, дазвольце спытаць, Чарнамырдзін — кіраўнік камісіі? Зноў будуць адказваць усе — і ніхто. Выканаўчая ўлада павінна мець такога чалавека і такую створаную ім каманду, каб здолець перамагчы ўсе перашкоды. Ён першы павінен убачыць — ідзе справа ці не. Ён павінен быць дыктатарам у сваёй справе, ажыццяўляць каардынацыю ўсіх сіл — і ваенных, і цывільных. У чачэнскім крызісе трэба праяўляць як мага больш цвярозага сэнсу.

Хачу нагадаць, што Чачня — не царская Цусіма, хаця эпізод, даволі ганебны для патрыятычных пачуццяў. Відаць, гэта добра ўсведамляў Сяргей Вітэ, які не быў генералам. Нягледзячы на тое, што расійскі бок ганебна прайграў вайну, таленавіты дапламат здолеў знайсці кампраміс і выйграў вайну дыпламатычную.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ,**
**уласны кар. «Звязды» ў Маскве.**

## У СУСЕДЗЯЎ

### КАГО ЛЮБЯЦЬ ПАЛЯКІ?

Апытанне адносна таго, як палякі ставяцца да іншаземцаў, правёў у маі гэтага года Цэнтр вывучэння грамадскай думкі (CBOS). Вынікі надрукаваны ў апошнім суботне-нядзельным (17—18.8) нумары газеты «Рэчпаспаліта». Адразу адзначаецца, што радзей, чым у папярэдніх апытаннях, палякі выказваюць сваю антыпатыю да іншых народаў.

Найбольшую прыхільнасць у жыхароў Польшчы выклікаюць італьянцы і французы — 62 працэнты апытаных заявілі пра гэта. Найчасцей палякі «шукаюць сяброў» у краінах Заходняй Еўропы і Амерыкі. Жыхары багатых і развітых краін Захаду ўжо колькі гадоў абуджаюць у палякаў цёплыя пачуцці. Свае сімпатыі да амерыканцаў выказалі 59 працэнтаў апытаных, да аглічан і шведаў — 51 працэнт. Менш чым кожны другі рэспандэнт сімпатызуе аўстрыйцам, японцам, венграм.

Найбольш актыўна змяняюцца адносіны да немцаў. Калі ў 1993 годзе сімпатыі да заходніх суседзяў выказалі 23 працэнты апытаных, антыпатыю — 53 працэнты, то сёлета — адпаведна 43 і 31 працэнт. Пазітыўныя змены адбыліся і ў адносінах да літоўцаў, жыхароў Ізраіля.

Найчасцей дэкларавалі свае адносіны як антыпатыўныя да румынаў і цыганаў — 70 працэнтаў апытаных, да ўкраінцаў — 60 працэнтаў, да расіян — 57 працэнтаў, да беларусаў — 50 працэнтаў.

### НА ЧЫМ ЕЗДЗЯЦЬ ПАЛЯКІ?

За чатыры гады колькасць аўтамабіляў, набытых жыхарамі Польшчы, склала 1 мільён 320 тысяч. Калі параўноўваць гэта з Германіяй, то не надта вялікая лічба. Бо там толькі за 1995 год было прададзена 3,3 мільёна аўтамабіляў. Польскі рынак, які налічвае 40 мільёнаў пакупнікоў і на якім штогод прадаецца каля 350 тысяч аўтамабіляў, нагадвае рынак Бельгіі з яе 10 мільёнамі жыхароў. Сярод найбольш папулярных аўтамарак — «Фіят»:, за чатыры гады яго набылі амаль паўмільёна жыхароў Польшчы. На апошнім месцы, 10-м, — «Лада», якую купілі крыху менш як 10 тысяч палякаў.

На працягу шасці месяцаў гэтага года ў Польшчы прададзена каля 200 тысяч аўтамабіляў. Найбольшым попытам карыстаецца найтаннейшы польскі «Фіят-126», якога прададзена 33,8 тысячы. На другім месцы — «паланезы», якіх прададзена 31,9 тысячы, што на 9,7 тысячы менш, чым у мінулым годзе.

### ЧЫЕ ГАЗЕТЫ Ў ПОЛЬШЧЫ?

Кіраўнік партыі «Хрысціянска-народнае згуртаванне» Мар'ян Пілка паведаміў, што інвестыцыі замежнага капіталу ў польскую прэсу пагражаюць кантролем замежнікаў над сродкамі масавай інфармацыі. На яго думку, 2/3 рэгіянальных газет і каля паловы агульнапольскіх з'яўляюцца ўласнасцю заходніх інвестараў. Ён прапанаваў, каб заходні капітал меў права выкупу толькі 1/3 кошту выдання.

Міхал Комар, старшыня Саюза выдаўцоў прэсы, арганізацыі, якая аб'ядноўвае большасць польскіх выдаўцоў, катэгарычна з такой ацэнкай не згаджаецца. Ён лічыць гэта збліжэннем поглядаў хрысціян-народнікаў з левіцай, якія баяцца, што заходні капітал будзе пагражаць свабодзе прэсы. М. Комар падкрэслівае, што няма польскіх інвестараў, якія маглі б укладваць грошы ў сродкі масавай інфармацыі.

***Па старонках польскай прэсы.***

# НЕМКА

## Фізіялагічны нарыс

### ІДЭАЛ НЯМЕЦКАЙ ЖАНЧЫНЫ

Немкі — гэта царства паўнаватых ног, якое пачынаецца адразу за Одэрам і канчаецца дзесьці на заходняй мяжы Эльзаса і Латарынгіі — ужо ў Францыі. Спачатку здзіўляешся такому здароваму багаццю моцных галёнак і сцёгнаў, якія крутасцю нагадваюць віражы «Формулы-1», затым памалу прывыкаеш і нават адбываецца карэкцыя эстэтычнага пачуцця: яны пачынаюць падабацца. На самай справе, каб іх чорт узяў, чаму яны павінны быць худымі?

Нямецкі ідэал безагаворачна бялявы.

Нямецкі народ любіць сваіх бландзінак як галоўны нацыянальны здабытак. Ён прысвячае ім песні і вершы, раманы, кінафільмы і анекдоты. Апошніх вялікая колькасць, і, галоўнае, яны вылучаны ў асобны юмарыстычны жанр — «анекдоты пра бландзінак» (пра брунетак, шатэнак ці рудых — нічога падобнага!). Такога раздзела юмарыстыкі, здаецца, больш ні ў кога, акрамя немцаў, няма. У анекдотах у бландзінак выступаюць дзве ярка выяўленыя якасці: легкадумнасць, даведзеная да распусты, і глупства.

Гэты штамп настолькі ўсеагульны і глыбока сядзіць у падсвядомасці, што ў газетных аб'явах аб знаёмствах адразу за ўказаннем колеру валасоў — «blond» ідзе тонкае абвяржэнне стэрэатыпу: «адданая і верная», — а таксама цікавіцца ўсім на свеце ў тым аб'ёме, у якім звычайны смяротны, няхай ён нават тройчы брунет ці лысы, цікавіцца не можа — ад кітайскай філасофіі да канструкцыі міжкантынентальных балістычных ракет. Ці яшчэ прасцей — без акалічнасцей: «Бландзінка, але ўмею думаць».

### ЭМАНСІПАЦЫЯ — ГЭТА ЖОРСТКАЯ РЭАЛЬНАСЦЬ

Нямецкая жанчына найбольш масавага ўзору, незалежна ад камплекцыі, колеру валасоў і нават розуму, раптам, нервова тарганудшы плячамі, успомніць аб мужчынскім шавінізме ў самы, здавалася б, непадыходзячы момант: калі вы паспрабуеце падаць ёй паліто ці, па дурацкай рускай звычцы, захочаце дапамагчы паднесці што-небудзь не вельмі цяжкае, для чаго мужчыну дапамога не спатрэбілася б. А так — чыстая дыскрымінацыя.

Такім чынам, яна адхіліцца, таргане плячамі, і калі вы здзіўлена спытаецеся ў яе: «Warum?»... Вось тут вы і рызыкуеце пачуць усё, што яна думае аб мужчынах наогул і аб гэтым зневажальным для прыстойнай жанчыны шавінізме.

У цэлым — яны свайго дабіліся. Гэта на самай справе самае незалежнае, самае энергічнае, адукаванае, з вельмі развітой індывідуальнасцю і нават самае бясстрашнае жаночае насельніцтва Еўропы, а то і свету. Усе яны бегаюць, плаваюць, катаюцца на роліках, ведаюць англійскую, французскую і яшчэ вывучаюць мову індзейцаў кечоа, падарожнічаюць у адзіночку без мужчын, збіраюцца ў жаночыя клубы, дзе расслабляюцца, плаўна павільваючы сцёгнамі, ці, наадварот, напружваюцца, падымаючы штангу і інш., і інш. Не злічыць захапленняў нямецкай жанчыны! Ёю шчыра залюбуешся ў любых абставінах. Яна разумная субяседніца, і пытанне аб тым, ці падабаецца ёй якая-небудзь карціна (кніга, кінафільм, урад), не ўспрыме як вытанчанае і шкоднае мужчынскае дамаганне з далёкім прыцэлам, а спакойна растлумачыць як роўная роўнаму, што так, маўляў, і так, мастак гэты нарадзіўся тады, належыць да школы малых галандцаў, а ў апошнім перыядзе творчасці быў не заўсёды паслядоўным у адлюстраванні цяжарных кароў, а таксама каларыт і кампазіцыя гэтай карціны, і г. д., і да т. п. Тое ж самае адбудзецца, калі вы папросіце яе растлумачыць вам асаблівасці нямецкага рынку аўтамабіляў, электратавараў, працоўнай сілы, нямецкай адукацыі і інш.

...Немка прэтэндуе на такую ж працу, як і мужчына, на такую ж зарплату, яна жыве адна ў трохпакаёвай кватэры, ездзіць на аўтамабілі ці, калі хоча, на веласіпедзе, мае рахунак у банку, адна ходзіць у рэстан, кафэ, на дыскатэку, у тэатр. Яна прыходзіць у танцавальнае кафэ і выбірае сабе мужчыну на дзень, на тыдзень, на год ці на ўсё жыццё.

Такія пары могуць нават жыць не разам — кватэры ва ўсіх ёсць. Сустрэліся, пасядзелі пры свечках (нямецкая невынішчальная любоў да кіношна-рамантычнага антуража) за карыснай для здароўя ежай, пераспалі і — па дамах. Калі трэба пайсці ў госці, у кампанію ці кафэ — сазваніліся, сустрэліся і зноў па дамах. Нішто не перашкаджае пры такіх умовах мець і па некалькі сяброў-сябровак, што і робяць многія са знаёмых немцаў і немак. Хто-небудзь адзін можа лічыцца «асноўным», гэта значыць уласна «сябрам». Нешта накшталт усходняга шлюбу ў свабодным свеце: любімая жонка, менш любімая, маладая жонка і г. д. Толькі жанчыны таксама атрымліваюць магчымасць да такой разнастайнасці і выбару.

Наогул, браць шлюб як бы і няма патрэбы. Праблемы жылля амаль няма (хаця немцы і ныюць, што яно дарагое, аднак аплачваць яго не могуць толькі бамжы), жанчына як кухарка не патрэбна — шмат паўфабрыкатаў. Хіба што дзеці? Але і тут немка, якая раджае ў першы раз гадоў пад сорак, — не рэдкасць. А да сарака ж ніякага рэзону выходзіць замуж! Да гэтага, здаецца, не імкнуцца абодва бакі.

...І ўсё ж мне падалося, што, дасягнуўшы ўсяго, чаго жадала, нямецкая жанчына засталася глыбока няшчаснай істотай. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова акінуць позіркам нямецкіх мужчын, прынамсі тую значную іх частку, якая жыве ў гарадах. У большасці сустрэтых на вуліцы, у трамваях, кафэ маладых пар вы з неўсвядомленай злосцю і амаль з рэўнасцю выяўляеце, што жанчына выглядае значна лепш за мужчын: і прыгажэйшая, і — па вачах відаць — разумнейшая, з больш моцным характарам і рашучасцю.

### РЫНАК КАХАННЯ І ДРУЖБЫ

Але самае дзіўнае — гэта нямецкія шлюбныя аб'явы. Гэта эпас, чароўная казка і прыгодніцкі раман адначасова, чаго ніколі не знойдзеш у рускіх аб'явах такога роду, якія ў нас нагадваюць біржавую інфармацыю: рост, вага — в/а без ш/з і г. д.

Прывяду некаторыя вытрымкі наўздагад з аднаго нумара часопіса «Кельнер ілюстрырт».

«Салодкая зеленавокая дзікая кошка, якая лашчыць і пакусвае, шукае чорнага ката для сумесных месячных прагулак. Любіць гуляць на свабодзе, але таксама і вяртацца дадому...»

«Даверлівая неблыхастая і без каціных чарвякоў маладая кошачка (31 год) з карычневай поўсцю і карымі вачамі шукае новага гаспадара. Аддасца толькі ў любячыя рукі. Упартая, але вельмі ласкавая...»

«Рудая ведзьма шукае ведзьмака для агністых эксперыментаў. Я люблю чорныя свечкі і суп з жаб. Калі табе ад... да.., прыйдзі і зачаруй мяне».

«Матацыклістка, якая спявае, для легенд і страсцей. Ці ёсць хто-небудзь, чыё сэрца б'ецца ў тым жа рытме?»...

А вось падтаквае ім нямецкі мужчына.

«Маленькі дракончык з вялікімі амбіцыямі шукае абаяльную прынцэсу з мэтай выкрадання. Пячора і агністы тэмперамент маецца...»

Часам здаецца, што яны спаборнічаюць у ідыятызме. Але хутчэй за ўсё гэта проста такая гульня, правілаў якой мы яшчэ не вывучылі, паколькі і гэты бок рынкавых адносінаў у нас яшчэ недастаткова «цывілізаваўся».

**Аляксей КАЗЛАЧКОЎ,**
*Кёльн.* «Независимая газета».

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**❑ ЦІХАМІРАЎ ВЯРНУЎСЯ З ВОДПУСКУ, КАБ КІРАВАЦЬ ШТУРМАМ ГРОЗНАГА**

Групоўка чачэнскіх баевікоў у Грозным за апошнія дні значна павялічылася. У горад прыбываюць атрады з поўдня краіны, уступае ў падраздзяленні мясцовая моладзь. Са слоў прадстаўніка федэральнага камандавання, пад відам гуманітарнай дапамогі ў чачэнскую сталіцу ўвозяць грошы, харчаванне і боепрыпасы. Камандуючы федэральнымі войскамі ў Чачні Ціхаміраў, які вярнуўся з водпуску, мае намер прыняць у дачыненні да баевікоў у Грозным самыя рашучыя меры. Па яго словах, зараз ён вывучае аператыўнае становішча ў чачэнскай сталіцы і рыхтуецца вызваліць горад ад сепаратыстаў. Адказваючы на пытанні журналістаў, Ціхаміраў заявіў, што не збіраецца папярэджваць баевікоў аб пачатку аперацыі па захопу Грознага.

У штабе сепаратыстаў паведамілі, што федэральная авіяцыя наносіла няспынныя ўдары па Грознаму ноччу і раніцай у сераду. У выніку на некаторых аб'ектах нафтаперапрацоўчага комплексу ўзніклі пажары. Акрамя гэтага, па словах сепаратыстаў, горад абстрэльваўся з мінамётаў, артылерыйскіх і танкавых гармат. Паводле даных баевікоў, федэралы ўчора нарошчвалі сілы і сродкі на накірунках магчымых прарываў да цэнтра горада з боку аэрапорта «Паўночны» і сваёй базы ў Ханкале.

**❑ ВЫСОКАПАСТАЎЛЕНЫХ ЧЫНОЎ БУДУЦЬ БОЛЬШ ПІЛЬНА АХОЎВАЦЬ**

У Маскве ўводзяцца дадатковыя меры па ахове высокапастаўленых чыноўнікаў і кіраўнікоў. У прыватнасці, пад дадатковы кантроль пастаўлены падземныя калектары, гарышчы, падвалы і пустуючыя памяшканні, якія знаходзяцца на маршрутах праезду высокапастаўленых асоб. Колькасць вуліц, плошчаў, завулкаў і праспектаў, на якіх будзе ўзмоцнены кантроль, павялічана і даведзена да 100.

**❑ ЛАТВІЯ СВЯТКАВАЛА ДЗЕНЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ**

Учора ў Латвіі адзначалі пятую гадавіну аднаўлення дзяржаўнай незалежнасці. Як заявіў па нацыянальным радыё былы старшыня Вярхоўнага Савета Латвіі Анатоль Гарбуноў, жнівеньскі путч 1991 года стварыў унікальную магчымасць для рэспублікі набыць незалежнасць. 21 жніўня 1991 года Вярхоўны Савет Латвіі прыняў канстытуцыйны закон аб дзяржаўным статусе рэспублікі, згодна з якім яна была абвешчана незалежнай.

**❑ ВОЙСКІ НАТО ПРАЦЯГВАЮЦЬ ЗНІШЧЭННЕ ЗБРОІ Ў БОСНІІ**

Аб'яднаныя міратворчыя войскі НАТО працягваюць аперацыю па ліквідацыі нелегальных сховішчаў зброі, што належалі баснійска-сербскай арміі, нягледзячы на пратэсты з боку апошняй. Ваенная амуніцыя, што была знойдзена ў адной са школ вёскі Магацічы, з'яўляецца нелегальным складам. Мэр бліжэйшага да вёскі горада звярнуўся з пратэстам супраць выбухаў у адным са сховішчаў, бо гэтыя выбухі не толькі пагоршаць эканамічнае становішча ў рэгіёне, але і пазбавяць раён крыніцы пітной вады. Камандуючы войскамі НАТО выказаў сваё скептычнае стаўленне да гэтага пратэсту і заначыў, што калі сховішча не ўдасца знішчыць такім шляхам, то можна знайсці іншы.

**❑ ВЫБУХ, АЛЕ НЕ ТЭРАКТ**

Учора раніцай у жылым доме на другой Уладзіміраўскай вуліцы ў Маскве адбыўся выбух, у выніку якога загінулі тры чалавекі. У доме пачаўся пажар, які праз гадзіну ўдалося ліквідаваць. Прэс-служба Маскоўскага ўпраўлення Федэральнай службы бяспекі выключыла магчымасць тэракта і паведаміла, што, хутчэй за ўсё, прычынай выбуху была ўцечка газу або неасцярожнае карыстанне газавым балонам.

***Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», «Радыё 101,2» і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Частка корпуса знакамітага «Тытаніка», які затануў у водах Атлантыкі ў 1912 годзе, будзе паднята з марскіх глыбінь праз некалькі тыдняў. Аб гэтым заявіла фірма з канадскай правінцыі Ньюфаўндленд, якая займаецца пад'ёмам затанулых суднаў. Выратавальная аперацыя па пад'ёму 10-тоннага абломка лайнера будзе працягвацца некалькі дзён. За ёй будуць назіраць некалькі спецыяльна запрошаных для гэтага былых пасажыраў «Тытаніка», якія тады засталіся ў жывых. Паднятая частка корпуса судна будзе перададзена нью-йоркскаму музею «Тытанік», які ўдзельнічае ў фінансаванні аперацыі.

***ІТАР—ТАСС.***

На егіпецкіх будаўнікоў, якія разбіралі старадаўняе збудаванне ў адной з вёсак у дэльце Ніла, праліўся сапраўдны залаты дождж, калі яны ўскрылі тайнік са скарбам. На цуд збегліся паглядзець і мясцовыя жыхары, якія змаглі прыкішэніць частку скарбу. Тым не менш, прадстаўнікі ўладаў сабралі 107 залатых візантыйскіх манет, якія датуюцца V—VII стагоддзем. Паліцыя на ўсякі выпадак апячатала дом і выклікала экспертаў для дэталёвага агляду: а раптам набяжыць яшчэ адна залатая «хмара»?

***Рэйтэр.***

Венскі філарманічны аркестр, які да гэтага часу заставаўся адным з апошніх «мужчынскіх аплотаў» Аўстрыі, мае намер рэзка змяніць сваю кадравую палітыку і ўпершыню за 154 гады існавання ўключыць у свой састаў жанчын. Як прызнаў дырэктар аркестра, у краіне не хапае кваліфікаваных мужчын-музыкантаў. Да таго ж 65 працэнтаў студэнтаў музыкальных вучылішчаў складаюць жанчыны, і з гэтым фактам трэба мірыцца. Міністр культуры Аўстрыі прыгразіў нават урэзаць дзяржаўныя субсідыі аркестру, калі за пульт не ўсядуцца і дамы.

***Рэйтар.***




## УШЧЫЛЬНІК МОЖНА АДНАВІЦЬ



мал. 1.



мал. 2.



мал 3.

У «Жыгулях» з прычыны карозіі разбурыўся спальны каркас гумавага ўшчыльніка ў багажніку, з-за чаго ён перастаў трымацца на адбартоўцы жолаба.

Зберагчы гэтую дарагую рэч дапаможа «мавіль», заліты загадзя ў зняты ўшчыльнік.

Калі гэта аперацыя ўжо дарэмная, можна аднавіць ушчыльняльнік наступным чынам. Робім з кансервавай бляшанкі палосы (мал. 1), устаўляем іх ва ўшчыльнік (мал. 2), згінаем, карыстаючыся апраўкай — сталёвай паласой таўшчынёй 2-3 мм, як паказана на мал. 3.

## ПАРАДЫ МАЙСТРОЎ

Калі па якой-небудзь прычыне тармазная вадкасць у напаўняльным бачку дасягнула дна і вы падазраяце, што ў сістэму трапіла паветра, паспрабуйце выгнаць яго без прапампоўвання. Здыміце кола і ссуньце калодкі ў барабанным тормазе ці рассуньце ў дыскавым. Пры гэтым вадкасць з сістэм паднімецца ў бачок і выцісне паветра, якое туды трапіла. Застаецца толькі даліць вадкасць і папрацаваць тармазной педаллю, каб выбраць зазор паміж калодкамі і барабанам ці дыскам.

Калі ў вас няма пад рукой шланга, каб пераліць бензін, выкарыстайце ўшчыльнік, зняўшы яго са шчыта ў маторным адсеку, за якім размяркоўваецца паветразаборнік вентыляцыі салона. На большасці аўтамабіляў ён полы, лёгка здымаецца і ўстанаўліваецца.

Каб засцерагальныя чахлы на тармазных рабочых цыліндрах лепей выконвалі сваю функцыю, трэба запоўніць іх літолам ці якой-небудзь іншай кансервавальнай змазкай.

Гайкі, галоўкі шрубаў, у тым ліку «самарэзаў», якія мацуюць фары, ліхтары, рэле і г. д., а таксама злучэнні трубаправодаў паспрабуйце замазаць кіт, тады разьба не ржавее і вінты і гайкі лёгка адкруцяцца нават праз некалькі гадоў эксплуатацыі.

Аўтааматарам-пачаткоўцам карысна ведаць, што:

- бензін з каністры будзе выцякаць роўна і без булькання, калі яе трымаць плазам, гарлавінай уверх;

- каўпачкі на вентылях шынных камер будуць чыстымі, калі на іх надзець кавалачкі хлорвінілавай трубкі прыдатнага дыяметра, якія з аднаго боку трэба запаяць (для гэтага дастаткова іх разагрэць і сціснуць пласкагубцамі);

- кавалак брызенту ці плёнкі памерам прыкладна 1000 х 1500 мм, пакладзены на дно багажніка, дазволіць хутка пазбавіцца ад смецця;

- палоскі тонкай гумы ці шпалераў, якія самі клеяцца, калі іх наклеіць на парогі, закрываюць фарбу на іх, а значыць, засцерагаюць ад карозіі.

ХОЧАЦЕ — ВЕРЦЕ...

# ЛЯНОТА Ў НАВУКОВЫМ АСПЕКЦЕ

**Пасля чарговай марнай спробы змяніць сваё жыццё вы леглі на канапу і запэўніваеце сябе ў сваёй нежыццяздольнасці. Гэта не так. У глыбіні душы вы лічыце сябе незвычайным чалавекам. Так яно і ёсць. Вы абралі правільны старт перад чарговым забегам — паленавацца.**

Лянота — пастаянная рыса ў характары кожнага чалавека. Хоць і асуджаецца ў ліку самых распаўсюджаных грахоў. Лянота, як гаворыць народная мудрасць, — маці ўсіх заганаў. Але, дадае навука, і сястра ўсіх вартасцей. Нездарма перад багатырскімі подзвігамі 33 гады ляжаў на пячы Ілья Мурамец. А ў нямецкай арміі існаваў тайны падзел афіцэраў на чатыры катэгорыі. Самымі небяспечнымі лічыліся служакі тупыя і энергічныя. Высокіх зорак на пагонах таксама не дасягалі тупыя і лянівыя, вартыя толькі ніжэйшага афіцэрскага саставу. Разумныя і энергічныя — добрыя выканаўцы. Яны — сярэднія афіцэры і супрацоўнікі штабоў. А вось разумныя і лянівыя лічыліся элітай, вартай вышэйшага кіруючага савета арміі.

Людзі, якія заўсёды і ва ўсім спяшаюцца, добраахвотна набліжаюць сваю пагібель, парушаючы натуральны ход біярытмаў у арганізме. А ён такі, што кожныя дзве гадзіны — а гэта 10—12 разоў у суткі — запавольваецца ўспрыманне рэчаіснасці. Арганізм перыядычна адпачывае. Калі гэтага не ўлічваць, перагрузкі непазбежныя. Насілле над сабой канчаецца нікчэмна. Сумны прыклад — жыццё Джэка Лондана. Ён хутка напісаў шмат цудоўных твораў, напружана працуючы кожны дзень. Але памёр у першым жа за сваё саракагадовае жыццё адпачынку. Згарэў як свечка. Цяпер ужо даказана, што ён не скончыў жыццё самагубствам, як лічылася. Проста ў яго не засталося сіл, каб жыць.

Здольнасць арганізма прыстасоўвацца да любых зменаў навакольных умоў вялікая, але калі не спяшацца з часам. Нездарма немаўляты далёка не адразу прывыкаюць да новай ежы. І асабліва небяспечная спешка для яркіх асоб, якія спяшаюцца бліснуць сваім інтэлектам. Аднак гэта ўдаецца толькі тым, хто не спяшаецца.

Гэта пацвярджаецца мноствам фактаў. Быў такі хлопчык, Альберт Эйнштэйн. У школе за ім усталявалася трывалая рэпутацыя тугадума, што яго вельмі крыўдзіла. І дзядзечка часта суцяшаў яго: не ўсім жа вучонымі быць... Любімцамі настаўнікаў ніколі не былі Пушкін і Байран, Дарвін, Чэрчыль і Пікасо. Ва ўсіх у характарыстыках адзначалася: не без здольнасцей, але з лянотай... І наогул, сярэднія здольнасці ў дзяцінстве, неблiскучыя поспехі ў юнацтве, сціплы пачатак працоўнай дзейнасці — падобныя рысы біяграфіі многіх славутых людзей. Ці не дапамагае ім прыродны інстынкт размяркоўваць час, каб выспець, засвоіць, засяродзіцца? А празмерныя амбіцыі, імкненне ашаламіць акружаючых сваёй «зорнай гадзінай» проста з'ядаюць жыццёвыя сілы? На думку вучонага Каліфарнійскага тэхналагічнага інстытута Карла Андэрсана, узлёт таленту прыпадае на 26 гадоў, да гэтага ўзросту спяшацца няма куды. Другі амерыканскі прафесар, Арнольд Людвіг, прааналізаваўшы біяграфіі больш чым тысячы чалавек, якія сталі гонарам сусветнай цывілізацыі, прыйшоў да высновы, што, акрамя здольнасцей, закладзеных прыродай, для трансфармацыі таленту ў геніяльнасць патрэбна пэўнае псіхалагічнае асяроддзе. Аб гэтым, дарэчы, добра ведалі нашы продкі.

Вось чаму філосафы мінуўшчыны лічылі галоўным правілам добрага выхавання... навучыць дзіця губляць час. Гучыць парадаксальна пры нашым стылі жыцця. Нашы дзеці ў пастаянным узбуджэнні: школа, рэпетытары, заняткі музыкай і спортам, нарэшце, проста тэлевізар не пакідаюць ім магчымасці пасумаваць. А сум — цудоўны сродак для развіцця фантазіі. Без фантазіі няма генія. Нездарма Эйнштэйн казаў, што фантазія важнейшая за веды.

Яшчэ цяжэй адмовіцца ад звыклай гонкі дарослым. Мы ўвесь час спяшаемся і ўвесь час не паспяваем. Але спяшацца — толькі прайграваць. Нездарма прыказка гаворыць: «Паспех — людзям на смех». Увесь свет захапляецца поспехамі японцаў. Але яны прымаюць свае рашэнні з хуткасцю смаўжа. Прытрымліваюцца правіла старажытных рымлян: спяшайся павольна. І не робяць ні аднаго няправільнага кроку.

**Вера КРАСНОВА.**
**«Российская газета».**

ВЫСТАЎКІ

# НА МЯЖЫ АДКРЫЦЦЯ



**У Траецкім прадмесці, у мастацкім цэнтры «Жыльбел», — новая выстаўка. Цікаўны, нераўнадушны глядач атрымаў шанц усур'ёз пазнаёміцца з творчасцю Івана Кліменкі.**

Пісьменнік Уладзімір Сцяпан стан творчага натхнення, стан матэрыялізацыі Іванам Кліменкам падараваных яму Усявышнім вобразаў і ідэй акрэсліў наступным чынам: мастак знаходзіцца на мяжы адкрыцця, на нябачнай мяжы фантазіі і рэальнасці. Пераканацца ў гэтым можна было кожнаму, знаёмячыся з творамі «Без назвы» і «Без імя», сустракаючыся з «Царамі зямнымі», трапляючы ў «Вечар на Балтыцы», адкрываючы для сябе светапогляд мастака ў яго выключна шырокіх, шматпланавых палотнах «З дзён маіх» і «З начэй маіх». Некалі, у блізкім учора, Ферман Лежэ заўважыў: «...калі б савецкія мастакі «знайшлі» сацыялістычны рэалізм, пераскочыўшы цераз нашы пошукі, я паклаў бы свой пэндзаль, як шпагу, да ног пераможцы». Выдатны сённяшні цяжкі час. Іван Кліменка вольны ад пошукаў на ніве сацыялістычнага рэалізму. Мо таму так ахвотна палотны нашага суайчынніка набываюць для сваіх прыватных калекцый грамадзяне ЗША і Аўстрыі, Даніі і Ізраіля, Польшчы і Літвы, многіх краін на прасцягах былога СССР. Мо таму, адкрываючы творчасць Івана Кліменкі, думаеш, згадваеш пра каго заўгодна — ад Манэ і Тулуз-Латрэка да Кандзінскага, але толькі не пра Глазунова і падобных да яго.

Мастацкі цэнтр, выстаўка Івана Кліменкі і многіх іншых яшчэ магчымы дзякуючы мастацкаму настрою, духоўнаму стану і прэзідэнта фірмы «Жыльбел» Валерыя Якаўлевіча Жыльцова.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Віншаванні

Віншуем з днём нараджэння Ядзвігу Баляславаўну РУБСКУЮ. Жадаем здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.

**Дзеці і муж.**

Сардэчна віншуем з юбілеем Ульяну Іосіфаўну ХАМІЧОНАК. Жадаем здароўя, шчасця, радасці.

Віншую з днём нараджэння пляменніцу з в. Сірэнеўка Драгічынскага раёна БУЯК Ніну. Жадаю здароўя, радасці і шчасця на ўсё жыццё.

**Цётка Валя.**

Віншуем з днём нараджэння Пятра Трафімавіча СЯРЭБРАНАГА. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і доўгіх гадоў жыцця.

**Дачка, зяць і ўнукі Андрэй і Дзіма.**

Віншуем з днём нараджэння Любоў Аркадзьеўну ШТЫБІКА. Жадаем, каб пражыла яшчэ шмат шчаслівых гадоў, каб заставалася такой жа прывабнай, добрай, каханай.

**Сям'я Тамары ПУЧКО.**

36,6°

## НАРОДНАЯ МЕДЫЦЫНА — АД КАМЯНЁЎ У ПЕЧАНІ І НЫРКАХ

Прапусціць праз мясарубку адну шклянку канаплянага семя, змяшаць з трыма шклянкамі сырога малака, уварыць да аб'ёму адной шклянкі. Гарачы настой працадзіць і піць нашча — па адной шклянцы на працягу пяці дзён. Праз паўтара тыдня паўтарыць. Не есці нічога вострага. Магчымы прыступы болю ў печані. Курс гэтага лячэння трэба праводзіць рэгулярна на працягу паўгода. Як сцвярджаюць народныя лекары, поўнае вылячэнне — без сумненняў.



## ТЭЛЕБАЧАННЕ

### на 22 чэрвеня

**Беларускае тэлебачанне**

**10.15** Каралеўскае паляванне.
**10.55** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага».
**11.50** Музыка без межаў. Музычна-інфармацыйная праграма.
**12.30** «Замовы бабы Сашы». Дак. фільм.
**12.45** «Гультай». Маст. фільм з субцітрамі (Індыя). 1-я і 2-я серыі.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Фліпер». Тэлесерыял.
**15.40** «Памежжа». Перадача з Гродна.
**16.10** «Ход сланом». Маст. фільм.
**16.20** Педагагічны экран. Жнівеньская нарада настаўнікаў.
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Творцы. Майстры мастацтваў Беларусі на 1-й дэкадзе ў Маскве (1940 г.).
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па адным». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага».
**20.05** «Оскар». Тэлегульня.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Хроніка жніва-96.
**22.15** «Чалавек з бульвара Капуцынаў». Маст. фільм.
**23.55** «Крок». Праграма для моладзі.
**0.25** Навіны.

**ГРТ**

**17.00** Навіны.
**17.20** «Новая ахвяра».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Лато-Мільён.
**19.00** Дзіўныя гісторыі ў праграме «Мая сям'я».
**19.45** «Добрай ночы, малышы!»
**20.00** Час.
**20.35** Праграма перадач.
**20.40** Фільм Сяргея Салаўёва «Аса».
**23.25** Навіны.
**23.35** «Абоз». Шоу Івана Дзямідава.

**Канал «Расія»**

**7.00, 10.00, 16.00, 19.00, 22.00, 22.55** Весткі.
**10.20** «Ад'ютант яго правасхадзіцельства». 4-я серыя.
**16.20** Музыка ўсіх пакаленняў.
**16.35** Залежыць ад цябе.
**16.50** «Чэленджэрс». Серыял.
**17.20** Ваш партнёр. «Дамашні лекар».
**17.30** Суайчыннікі.
**18.00** Тэлескоп.
**18.30** Нічога, акрамя...
**18.40** «Цёмная» для М. Гарбачова.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.30** Сам сабе рэжысёр.
**21.00** Надвор'е.
**21.05** «Элітны атрад». Маст. фільм (ЗША).
**22.45** Навінкі ад «ТБ-медыа».
**23.10** Адамаў яблык.
**23.55** «Японскі дзённік». Частка 3-я.

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 12.55, 13.55, 15.00, 16.55, 18.55, 22.00** Інфарм ТБ.
**12.05** «Першае каханне». Серыял.
**13.10** Тэрмін адказу — сёння.
**13.40** Парады садаводам.
**14.05** «Камо грядеши». 4-я серыя.
**15.15** «Нікало Паганіні». 3-я серыя.
**16.20** «Музычныя серады ў М. А. Рымскага-Корсакава».
**16.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі.
**17.05** «Філасофія па Філу». Серыял.
**17.25** Стыль жыцця.
**17.30** «Цікаўнае сланяня». Мультсерыял.
**17.40** Паказвае Ленінградская АТК.
**18.40** Вялікі фестываль.
**19.15** Спорт.
**19.20** «Першае каханне». Серыял.
**20.05** «І хлеб, і песня». Фільм-канцэрт.
**20.50** Спартыўны агляд.
**21.00** «Камо грядеши». 4-я серыя.
**22.15** «Нікало Паганіні». 3-я серыя.

**НТБ**

**6.00, 13.00** Сёння.
**11.00** Маст. фільм «Таёжная аповесць».
**12.35** Мультфільм.
**13.20** «Дом жахаў Хамера». 6-я серыя «Карпацкі арол».

**«Расійскія універсітэты»**

**15.00** XX стагоддзе ў кадры і за кадрам. «Ханжонкаў і К». Частка 1-я.
**16.00** Музычныя навіны.
**16.10** «Актрыса і зорка».
**16.45** Навіны.

**НТБ**

**17.00** Дак. фільм «Дзікая прырода: барацьба за жыццё».
**18.00, 21.00, 23.00** Сёння.
**18.35** Дак. фільм «Ворагі ўнутраныя». Серыял «Шпіёны» (ЗША).
**19.00** Маст. фільм «Паліцэйскі і бандыт-2». (ЗША).
**20.45** Доктар Вугал.
**21.35** «Дом жахаў Хамера». 7-я серыя «Вартавы апраметнай».
**22.30** Часінка.
**23.20** Маст. фільм «Няшчасны выпадак» (Вялікабрытанія).



## Праграма Мінскага кабельнага тэлебачання, 22 чэрвеня

**STV. «Онікс».**

**10.50** Анонс.
**11.00** RTL-2. «Смейцеся на здароўе».
**11.30** Рычард Нортан у новым мастацкім фільме.
**13.05** Еўраспорт.
**19.00** Анонс.
**19.10** Мультфільм «Аладзін».
**20.00** Праграма «Дзіцячы свет».
**20.30** Маст. фільм «Спакушэнне вар'яцтвам» (ч. 2-я).
**22.05** Кінематограф Францыі. Маст. фільм «Горад знікшых дзяцей».
**23.45** STV. VOX.



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ТОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400, Маскве — 365-16-44; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 4744.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12